# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 43 (2289) 22 кастрычніка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

## САМІ—І НІХТО ІНШЫ!

### З ПАСТАЯННЫМ ПРАДСТАЎНІКОМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ААН ГЕНАДЗЕМ БУРАЎКІНЫМ ГУТАРЫЦЬ РЭДАКТАР ГАЗЕТЫ «ГОЛАС РАДЗІМЫ» ВАЦЛАЎ МАЦКЕВІЧ

**Для мяне асабіста Генадзь Бураўкін найперш паэт, а потым ужо дзяржаўны дзеяч, палітык, дыпламат. Але і ў паэзіі, і ў палітыцы яго вызначае і адрознівае свая, асабістая грамадзянская пазіцыя. А сутнасць яе, на мой погляд, у тым, што Генадзь Бураўкін заўсёды быў беларусам: і ў тыя часы, калі большасць яго суайчыннікаў, каторыя там, на высокай арбіце, баяліся і рот раскрыць, каб сказаць з трыбуны слова па-беларуску, і цяпер, калі яны ж усяляк, хоць знешнімі атрыбутамі, пнуцца падкрэсліць сваю беларускасць.**

**Ён такі, бескампрамісны і можа занадта прамалінейны, але маўчаць пра тое, што яму баліць як грамадзяніну, не можа, ды і не стане.**

**У час адпачынку, які Генадзь Бураўкін правёў у Мінску, на некалькі дзён вырваўшыся на сваю Полаччыну, каб пабачыць бацькоўскую хату, мне ўдалося «перахапіць» яго, затузанага і тут рознымі дзелавымі спатканнямі, і гадзінку пагутарыць з ім. Мне хацелася больш даведацца і зразумець не пра тое, што адбываецца ў прадстаўніцтве Беларусі ў Нью-Йорку, а ў душы паэта і палітыка Генадзя Бураўкіна.**

**— Дык якой жа адтуль, з «прыгожага далёка», бачыцца наша Беларусь!**

— Яна бачыцца па-рознаму для розных людзей: для тых, хто адсюль родам, у каго тут карэнні, яна, канешне, у нейкай такой рамантычнай дымцы, безумоўна, пераважаюць больш надзеі і жаданні, чым веданне рэалій. А для тых, хто пра Беларусь мала ведае, то яна і сёння яшчэ загадка. Адзінае, што безумоўна я адчуваю, і ў Нью-Йорку, і ў ААН, — гэта тое, што цікавасць да Беларусі значна ўзрасла. Гэтаму спрыяла такая гістарычная падзея, як белавежскія пагадненні, таму што мы аказаліся ў цэнтры ўвагі, мы сталі каардынацыйным цэнтрам Садружнасці. І натуральна, што ўвесь палітычны свет захацеў даведацца: што такое Беларусь?

Яшчэ сказаў бы, што ў апошні час пачынаюць прывыкаць да таго, што мы самастойныя. Раней, хаця ў нас былі ўсе правы самастойнай дзяржавы, раўнапраўнага члена ААН, але ўсе ведалі, што рэальна мы — частка Савецкага Саюза і паводзім сябе адпаведна. Цяпер мы — самастойная дзяржава. Выяўляецца гэта, у прыватнасці, у ААН, у тым, што нас сталі дапускаць да многіх сур'ёзных рабочых органаў, у якіх мы раней не ўдзельнічалі. Я маю на ўвазе эканамічны і сацыяльны савет (ЭКАСОС), Праграму развіцця ААН (ПРААН).

І яшчэ дэталь: калі раней з намі загадзя не заўсёды ўсур'ёз раіліся, лічачы, што трэба раіцца з Савецкім Саюзам, а Беларусь нікуды не падзенецца: як прагаласуе Саюз, так прагаласуе і Беларусь, то цяпер да нас ідуць, каб пра нашую пазіцыю даведацца, каб параіцца па фармулёўках, папрасіць удзельнічаць у падрыхтоўцы рэзалюцый, быць сааўтарамі.

**— Ну і наша прадстаўніцтва ў ААН цяпер не рэкламная вітрына, якім было, калі мы ўваходзілі ў склад СССР, а сапраўды частка Беларусі ў вялікім свеце — супольнасці народаў.**

— Што пастаяннае прадстаўніцтва робіць для Беларусі? Па-першае, мы стараемся прадстаўляць інтарэсы рэспублікі: імкнёмся, каб у дакументах, рашэннях ААН улічваліся інтарэсы Беларусі. Безумоўна, не ўсё, што мы хо-

(Заканчэнне на 3-й стар.).





З мастаком Мікалаем Селешчуком я незнаёма, але дакладна магу сказаць: ён — добры чалавек. Адкуль я гэта ведаю? А таму, што чалавек, які любіць дзяцей, благім быць не можа. Адкуль я ведаю, што ён любіць дзяцей? А ці можна так прыгожа маляваць ілюстрацыі да дзіцячых кніжак, не любячы малых! Але трэба сказаць, што мастак Мікалай Селяшчук вядомы не толькі як афарміцель дзіцячых (і «дарослых») кніг, але і як аўтар шматлікіх і вельмі цікавых мастацкіх палотнаў і графічных работ. Зблытаць іх з чыімі-небудзь яшчэ немагчыма, і можа, не кожны адразу прыме іх. Тут цесна звязаны і час, і прастора, і рэальнасць, і ілюзорнасць. Можа, з-за неардынарнасці твораў і нельга назваць лёгкім шлях мастака. Але зараз, здаецца, наступіў час, калі работы Мікалая Селешчука атрымалі сапраўднае прызнанне. Мяркуйце самі: у 1989 годзе на Міжнароднай кніжнай выставе ён атрымлівае залаты медаль за афармленне кнігі «Казкі беларускіх пісьменнікаў», у 1990 — прымае ўдзел у аўкцыёне рускага жывапісу ў Парыжы, у гэтым годзе яго работы з поспехам дэманструюцца на выставах у Хельсінкі і Афінах. За серыю графічных твораў і мастацкіх палотнаў «Мая Беларусь», «Свята», аўтабіяграфічны цыкл з работ «Канец сезона туманаў» і «Памёр бацька», ілюстрацыі да паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» Мікалай Селяшчук вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь 1992 года.

НА ЗДЫМКАХ: мастак Мікалай СЕЛЯШЧУК; «Дзяўчына з птушкай» — адна з апошніх работ Мікалая Селешчука.

### ДА ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» Ў КРАІНАХ СНД

**ПАВАЖАНЫЯ ЗЕМЛЯКІ!**

**Апошнім часам у рэдакцыю пасыпаўся град лістоў і тэлефонных званкоў з пытаннем, як падпісацца на «Голас Радзімы». Выказваецца таксама і непаразуменне: чаму няма газеты ў дадатку да цэнтральнага каталога, як абяцалася ў нашай рэкламе. Адказваем. Прычына адна і добра вядомая: суб'ектывізм у стаўленні да беларускамоўнага друку. Нягледзячы на тое, што ўсе фармальнасці, у тым ліку аплата паслугі за ўключэнне ў каталог, намі былі выкананы, газеты там не аказалася. І гэта ў той час, калі трэць усіх нашых падпісчыкаў жыве ў краінах СНД.**

**Шаноўныя суайчыннікі! У нас няма іншага выйсця, як самім высылаць вам газету. Заяўкі на падпіску на першае паўгоддзе 1993 года тэрмінова накіроўвайце ў рэдакцыю. Усе дадзеныя — там жа. На другое паўгоддзе мяркуем прабіцца такі ў цэнтральны каталог, аб чым паведамім пазней. Упэўнены: наш чытач нас не пакіне.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ.**

СУСТРЭЧА З ПІСЬМЕННІКАМІ

## НЕ БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ, А НАЦЫЯНАЛЬНАЕ АДРАДЖЭННЕ

Прынцыповую нязгоду з тэрмінам «беларусізацыя», што ўжываецца ў кантэксце нацыянальнага адраджэння, выказаў на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч.

У такім шырокім саставе літаратары сабраліся ў будынку парламента ўпершыню. Адказаць на іх шматлікія пытанні згадзіўся і кіраўнік урада Вячаслаў Кебіч.

Вядома, зусім не тэрміналогія стала асноўнай тэмай амаль двухгадзіннай размовы. Проста асноўная ідэя ўсіх пісьменніцкіх выступленняў зводзілася да дрэннай рэалізацыі закона аб мовах.

У пацвярджэнне прыводзіліся прыклады заняпаду нацыянальнага кнігавыдання, правал падпісной кампаніі на беларускамоўную прэсу. Гаварылі аб сацыяльнай неабароненасці пісьменнікаў, якія атрымліваюць за сваю працу крайне нізкія ганарары.

Ад дэкларацый аб нацыянальным гонары да канкрэтных рэцэптаў правядзення беларусізацыі —такі быў дыяпазон выступленняў многіх прамоўцаў.

У дапамозе пісьменнікам як вялікай часткі нацыянальнай культуры ўрад не адмаўляе. В. Кебіч прапанаваў нават прысутным дапамагчы ў падрыхтоўцы адпаведнага Указа.

З ЧУЖЫХ СТАРОНАК

## ВЯРТАЦЦА — ДЫК ПРЭЗІДЭНТАМ

Пакуль нашы заканадаўцы ўсё яшчэ вырашаюць, быць ці не прэзідэнцтву на Беларусі, у Польшчы ўжо з'явіўся прэтэндэнт на гэтую пасаду.

Як паведамляюць варшаўская «Газета Выборча» і беластоцкі штотыднёвік «Ніва», пяцідзесяцігадовы грамадзянін Польшчы і Канады граф Аляксандр Прушынскі зусім сур'ёзна заявіў аб сваім намеры балаціравацца ў прэзідэнты Беларусі.

Дарэчы, граф Прушынскі родам з горада Ваўкавыска і ў бліжэйшы час збіраецца вярнуцца на радзіму. Ён ужо падаў прашэнне аб прадастаўленні яму грамадзянства Рэспублікі Беларусь.

Так што першы крок да прэзідэнцкага крэсла, можна сказаць, зроблены.

СУМНЫЯ ЛІЧБЫ

## АМЕРЫКА-РАЗЛУЧНІЦА...

Не змяншаецца паток грамадзян Рэспублікі Беларусь, што выязджаюць за мяжу на пастаяннае месца жыхарства. У 1989 годзе атрымалі замежныя візы 14 680 чалавек, а ў 1991 годзе — 22 017. Найбольшая колькасць эмігрантаў за 1991 год — з Мінска (8 804), крыху менш (6 615) выязджаюць з Гомельскай вобласці, з Магілёўскай —3 458, з Віцебскай —1 375. Па выніках мінулага года самымі непахіснымі аказаліся гродзенцы—241 чалавек пакінуў межы радзімы.

ПАСЛЯ НАРАДЫ Ў БІШКЕКУ

## У РУБЛЁВАЙ ЗОНЕ ЗАСТАЮЦЦА 6 ДЗЯРЖАЎ САДРУЖНАСЦІ

Каардынатар рабочай групы СНД Іван Каратчэня паведаміў, што пагадненне аб уваходжанні ў рублёвую зону ў Бішкеку падпісалі Расія, Казахстан, Узбекістан, Беларусь, Кыргызстан і Арменія. На прэс-канферэнцыі ў сталіцы Кыргызстана па выніках нарады кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці ён паведаміў таксама, што ўсе краіны — члены СНД, акрамя Украіны і Азербайджана, падпісалі пагадненне аб стварэнні міждзяржаўнага банка ўзаемных разлікаў.

МУЗЕІ



Ваенна-патрыятычны музей пабудаваны ў Кобрыне. Да афіцыйнага яго адкрыцця далёка, але некаторыя выставачныя залы ўжо дзейнічаюць. У іх арганізавана экспазіцыя, прымеркаваная да 180-годдзя перамогі пад Кобрынам рускіх войск у Айчыннай вайне 1812 года над арміяй Напалеона. На выстаўцы прадстаўлены зброя і абмундзіраванне той далёкай пары з запаснікаў музея імя Суворава, партрэты рускіх палкаводцаў, выкананыя мясцовымі мастакамі.

НА ЗДЫМКУ: ваенна-патрыятычны музей у Кобрыне.

ТАВАРЫ НАРОДНАГА СПАЖЫВАННЯ



Выпуск красовак зручных, прыгожых, з натуральнай скуры наладзіла вытворча-камерцыйная фірма «Міно», у ліку заснавальнікаў якой—Мінскі доследна-механічны завод «Бытсаюз», інстытут «Белбыттэхпраект» і іншыя арганізацыі. Цана навінкі параўнаўча невысокая—каля тысячы рублёў. Першая партыя вырабаў—10 тысяч пар—не заляжалася на гандлёвых прылаўках. Усяго ж фірма «Міно» мяркуе давесці выпуск красовак да 160 тысяч пар у год.

НА ЗДЫМКУ: аўтаматычную лінію па вытворчасці красовак абслугоўвае наладчык-аператар Ігар САВЕЛЬЕЎ.

НЯВЫГАДНАЕ ПАРТНЁРСТВА

## ХТО КАМУ ВІНЕН

Па ацэнцы Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, прадпрыемствы і арганізацыі Расіі завінаваціліся нашым працоўным калектывам каля 25 мільярдаў рублёў. Неплацяжы набылі масавы і хранічны характар. За апошнія месяцы беларускія прадпрыемствы пералічылі 67,2, а атрымалі толькі 29,6 мільярда рублёў.

Не апраўдаліся і разлікі на тое, што плацежаздольнасць нашай рэспублікі будзе адноўлена шляхам заліку ўзаемных патрабаванняў. Расійскія партнёры не выконваюць сваіх абавязацельстваў, чым літаральна «ставяць на калені» беларускіх гаспадарнікаў.

КАМЕРЦЫЙНАЕ ПАЛЯВАННЕ

## ЗА ВЫСТРАЛ — 4 ТЫСЯЧЫ МАРАК

Згодна са статыстыкай, у лясах Беларусі сёлета — каля 30 тысяч ласёў. З 1974 года на іх дазволена паляваць па ліцэнзіях, і кожны год адстрэльваецца да пяці тысяч жывёл.

Ласінае мяса, як вядома, карыстаецца вялікім попытам на міжнародным рынку. Гэта і навяло работнікаў паляўнічых гаспадарак рэспублікі на думку аб арганізацыі камерцыйнага палявання для замежных гасцей. Тых, хто жадае папаляваць у беларускіх пушчах, знайшлося нямала. Менш чым за год іншаземцы здабылі тут 55 ласёў, 10 аленяў, 18 дзікоў.

За здавальненне яны, натуральна, расплачваюцца валютай. Кошт ліцэнзіі на адстрэл лася-самца даволі высокі—4 тысячы нямецкіх марак. Гэтай сумы цалкам хапае, каб на працягу года забяспечваць усім неабходным адну паляўнічую гаспадарку.

З ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# КОНСУЛЬСКАЯ СЛУЖБА РЭСПУБЛІКІ НА ШЛЯХУ ДА СТАНАЎЛЕННЯ

**На мінулым тыдні ў Міністэрстве замежных спраў РБ адбылася прэс-канферэнцыя на тэму дзейнасці консульскай службы. Удзел у ёй прынялі супрацоўнікі консульскага аддзела міністэрства і намеснік міністра замежных спраў У. АСТАПЕНКА.**

На пытанне карэспандэнта «Голасу Радзімы» аб тым, якія галоўныя накірункі ў рабоце консульскай службы з замежнымі суайчыннікамі ён можа выдзеліць, намеснік міністра адзначыў, што хоць сувязі з дыяспарай не з'яўляюцца галоўным абавязкам консульстваў, аднак умацаванню сувязей будзе, безумоўна, садзейнічаць пашырэнне фізічнай прысутнасці беларускіх прадстаўніцтваў у іншых краінах свету. Такія прадстаўніцтвы паўсталі і дзейнічаюць у ЗША, Канадзе, Польшчы, Францыі, Ізраілі, дзе расселена асноўная частка нашых землякоў. Лепшаму кантактаванню з імі будзе адпавядаць і ўдасканаленне работы па дакументаванню, афармленню віз. МЗС мае ў сваіх планах і стварэнне спецыяльных фондаў па дапамозе таварыствам і абшчынам замежных беларусаў. У. Астапенка падкрэсліў, што прыярытэтным напрамкам па-ранейшаму з'яўляецца прамы дыялог з беларусамі Беласточчыны, падтрымка газеты «Ніва». Тым не менш, як адзначалася на прэс-канферэнцыі, адкрыццё консульскіх прадстаўніцтваў Беларусі значна адстае ад тэмпаў усталявання дыпламатычных адносін з іншаземнымі дзяржавамі. Важнейшым фактарам, які стрымлівае гэты працэс адкрыцця, намеснік міністра назваў адсутнасць валютных сродкаў, а таксама ўвагі ўрада да патрэб консульскай службы. Нягледзячы на гэта, у бліжэйшы час маецца на мэце дадаць да ліку існуючых яшчэ 10—15 новых прадстаўніцтваў.

Менавіта консульскі аддзел міністэрства, як ужо паведамляў сваім чытачам «Голас Радзімы», займаецца разглядам заяў аб набыцці грамадзянства Беларусі. Канчатковае ж рашэнне прымаецца на ўзроўні Вярхоўнага Савета. З тлумачэннямі на гэты конт выступіў А. Важнік. Згодна з імі, на сённяшні момант ёсць многа людзей, хто жадае атрымаць беларускае грамадзянства. Пераважную большасць складаюць калектыўныя заявы ад арганізацый нашых суайчыннікаў, якія жывуць у Таджыкістане, Казахстане, Узбекістане. 200 чалавек з Эстоніі звярнуліся ў МЗС з аналагічнай просьбай.

Журналісты даведаліся таксама, што, па некаторых звестках, у Ізраілі ўтварылася шматтысячная чарга з ліку яго грамадзян, былых уладальнікаў «малаткастага-сярпастага», якія імкнуцца вярнуцца назад на Беларусь. Гэтае сваё жаданне яны матывуюць тым, што іхні пераезд у Ізраіль быў крокам памылковым.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі некалькі разоў рабілі асобы акцэнт на пытаннях афармлення выязных віз і аплаты гэтых паслуг. Было заяўлена як супрацьвага тым чуткам, нібыта міністэрства завышае кошт паслуг, што ніякай наяўнасці ні ў савецкіх рублях, ні ў валюце на свой рахунак МЗС не кладзе. А справа ў тым, што пасольствы замежных краін бяруць за гэту работу вялікія грошы, сума якіх час ад часу павялічваецца прапарцыянальна росту інфляцыі. Напрыклад, за афармленне візы пасольства Нідэрландаў бярэ 6 тысяч рублёў, яшчэ больш — Бельгіі. Таму нярэдка збіраецца значная колькасць наяўных грошай, якія затым перадаюцца ў Маскву таму ці іншаму пасольству.

Супрацоўнікі консульскай службы міністэрства заявілі, што выключна іхняе ведамства, а таксама служба ВіР, яны і толькі яны, маюць права вырабляць і выдаваць беларускім грамадзянам замежны пашпарт. Усе іншыя канторы і малыя прадпрыемствы, якія мала што ні на кожным слупе прапануюць у сваёй рэкламе такі від сервісу, гэтым правам не надзелены. Аднак па ўсяму відаць, што якраз яны і шчыруюць у гэтым накірунку. Але і ў іх з'явіліся канкурэнты. І вы думаеце, хто?

Не дзе-небудзь, а ў Мінску, Гродне і Брэсце, як было сказана прадстаўнікамі вышэйшай знешнепалітычнай установы рэспублікі на сустрэчы з журналістамі, быццам бы працуюць філіялы расійскага Міністэрства замежных спраў, якія афармляюць замежныя пашпарты і іншыя, неабходныя для выезду за мяжу дакументы. Пры гэтым ставіцца ўмова запісваць у графе «нацыянальнасць» не «беларус», а «рускі». Ёсць выпадкі, калі людзі, вырабіўшы такія фальшывыя пашпарты за немалыя грошы, не атрымалі дазвол перасекчы граніцу. А колькі тых, хто атрымаў? Хоць яшчэ вядзецца расследаванне, і, трэба думаць, мы даведаемся і аб яго выніках, але ж адразу самахоць паўстае цэлы тузін пытанняў. На падставе якіх дамоўленасцей гэтыя «філіялы» прысвоілі сабе функцыі беларускай дзяржавы па ідэнтыфікацыі яе ж грамадзян і выдачы ім пашпартоў з падтасаванымі данымі? Хто і калі іх рэгістраваў? І г. д.

Не можа не звярнуць на сябе ўвагу і іншы момант. Як некалі ў пачатку стагоддзя, ад'язджаючы на заробкі з Расійскай імперыі ў Амерыку, «пан сахі і касы» запісваўся ці то «рускім», ці кім папала, так і цяпер яго нашчадак, грамадзянін суверэннай дзяржавы, праўда ўжо за магчымасць прадаць варшаўскаму пакупніку бутэльку гарэлкі, не задумваючыся, змяняе ў дакуменце сваю сапраўдную нацыянальнасць. Адно слова—«тутэйшыя» з Паўночна-Заходняга краю Расіі...

Сцяпан АКОЎКА.

*ПАГАВОРЫМ ПА ШЧЫРАСЦІ*

# САМІ—І НІХТО ІНШЫ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

чам і як мы хочам, прымаецца. Але ж не ўсё адразу. Хачу сказаць, шо мы заваёўваем аўтарытэт у дыпламатаў-прафесіяналаў. Мы стараемся для рэспублікі здабыць вопыт, які накапіла чалавецтва, развітыя цывілізаваныя дзяржавы, каб нам лягчэй і прасцей ісці да рынкавых адносін, станавіцца дзяржавай, дзе паважаюцца правы чалавека, шануюцца дэмакратычныя прынцыпы.

**— Якія ж пачуцці агортваюць самога прадстаўніка Беларусі, калі ён глядзіць на яе адтуль, не ведаючы, можа, нашых штодзённых клопатаў і згрызот, і што адчуў ён, ступіўшы на гэтую грэшную зямлю сёння пасля гадавога расстання з ёю!**

— У час некаторых падзей на тэрыторыі былога Савецкага Саюза мне было радасна за рэспубліку. За тое, што ў нас няма крывавых канфліктаў, што палітычная барацьба ідзе ў межах разважных, цывілізаваных. Цяпер жа я пабыў дома ў адпачынку, і ў мяне дабавілася ў душы трывогі, вялікай трывогі за лёс роднай рэспублікі, за лёс дзяржавы нашай. Чаму? Таму што я не адчуў дзяржаўнай прадуманай сістэмы сцвярджання самастойнасці. Тое, што мы аб'явілі нейкія палітычныя акты, заканадаўчыя — гэта добра. Але ж трэба самастойнасць сцвярджаць эканамічна, фінансава ў іншых варунках дзяржаўнай дзейнасці. Вось гэтага жадання я, на жаль, не адчуў. І тады, калі гаварыў з прадстаўнікамі розных партый, і тады, калі чытаў нейкія рашэнні парламента, пастановы ўрада.

І яшчэ адна трывога і боль — гэта адносіны да нацыянальнага. Мяне ашаламіла, наколькі ў нас людзі нізкай палітычнай, духоўнай культуры. Наколькі тут у Беларусі гэта бездухоўнасць шырока разлілася, што ставіцца пытанне: ці трэба беларуская мова?! Ці трэба, каб яна была дзяржаўнай? Якая ж у нас можа быць самастойнасць, усвядомленая годнасць, калі няма самага дарагога — паважлівых адносін да роднай культуры, мовы.

Мы абавязкова хочам, каб над намі быў «старэйшы брат». Мы ніяк не можам усвядоміць, што мы гэтую зямлю маем, яна наша і мы самі яе павінны даглядзець. Самі — і ніхто іншы!

**— Каб не мы самі, то ніякая русіфікацыя нас бы так не разбэсціла. Мы ж самі адмаўляемся ад свайго. Ці не так!**

— Так, так. Чалавеку хочацца быць не самім сабой, а некім. Змагацца з гэтым, я думаю, можна толькі павышэннем культуры ў самым шырокім сэнсе слова. Калі мы страсем з сябе нашу прыніжанасць, зразумеем, што мы людзі, нічым мы не горшыя за амерыканцаў ці за французаў, мы таксама народ, калі гэта ўсвядоміць кожны беларус, тады толькі нешта будзе.

Калі ў нас нацыянальная дзяржава, то яна павінна бачыць, што адбываецца, і спрыяць развіццю нацыянальнага. Я супраць таго, каб сілком навязваць беларускую мову, беларускія школы. Не думаю, што гэта дасць вялікую карысць, хутка нешта зменіць. Але я не разумею, калі дзяржава не стварае ўмовы, каб беларуская мова развівалася. Дзяржаве лёгка гэта зрабіць. Як у той жа Амерыцы. Калі чалавек прыязджае і хоча паступіць на работу, то ён павінен ведаць англійскую мову, хаця б на элементарным узроўні.

Так і тут, калі ты хочаш недзе на работу паступіць, то павінен ведаць беларускую мову. Трэба стварыць такія ўмовы, каб наша родная мова патрэбна была людзям.

Дзіўлюся некаторым нашым чыноўнікам, якія сцвярджаюць, што ў Беларусі патрэбны дзве дзяржаўныя мовы. Я разумею, дзеля чаго гэта гаворыцца, але яны забываюць, што адна з дзвюх дзяржаўных моў — беларуская. І калі чалавек у гэтай дзяржаве захоча займець нейкую пасаду, то ён ад беларускай мовы нікуды не ўцячэ — абавязаны будзе ведаць яе.

**— Можа я занадта збочу ад палітыкі, зноў ставячы пытанне пра культуру, але, па-першае, цяпер няма той шчыліны, куды б не залезла палітыка, а па-другое, хацелася б знаць думку паэта Генадзя Бураўкіна вось пра што. Апошнімі гадамі ў нас усё чутней заклік некаторых інтэлектуалаў паглыбіцца толькі ў сваё. У прыватнасці, выхоўваць дзяцей у школе толькі на нацыянальнай літаратуры — на Коласе і Купале, а не на Пушкіне і Лермантаве. Ці слушна гэта!**

— Так ужо атрымалася, што меней за ўсё мы ведаем пра сваё, пра сябе. Нехта некалі ўбіў нам у галовы, што толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі мы і дзяржавай сталі, і культуру займелі. Але ў нас ёсць сваё, як у любога народа, адметнае. І яго трэба шанаваць, вывучаць, выхоўваць на ім пакаленні. Ды ведаць толькі сваё — гэтага мала.

І калі мы ў свой час прынялі ў школе Пушкіна, Лермантава, то хай яны будуць з намі! Навошта ж выкідаць іх са школьных праграм. Мне таксама было б сумнавата, калі б я не ведаў гэтых геніяў, калі б я быў абыдзены Львом Талстым, Фёдарам Дастаеўскім.

Але ўсё-такі на зямлі так заведзена, што найбольш адпавядае табе сваё. Ні ў якім разе нельга сцвярджаць, што Пушкін вялікі, а Купала меншы. Не. Купала такі ж вялікі для беларусаў, як Пушкін для рускіх. І толькі ад таго могуць узнікаць такія праблемы — Пушкін ці Купала? — што Купалу пакуль свет ведае менш, чым Пушкіна.

Я зноў звяртаюся да дзяржавы: яна павінна спрыяць таму, каб мы маглі як мага больш, як мага глыбей уведаць сваю гісторыю, сваю зямлю, сваіх геніяў. Яны ў нас ёсць, і трэба іх шанаваць, бо яны найбольш поўна выявілі асаблівасці псіхікі і характару беларуса.

**— Ведаю, што наша прадстаўніцтва ў Нью-Йорку ўзваліла на свае плечы і такую нялёгкую ношу, як збор гуманітарнай дапамогі ахвярам Чарнобыля і дастаўка яе сюды ў Беларусь. Што самае прыкрае ў вырашэнні гэтай праблемы!**

— Самае прыкрае, калі табе за ласку — ніякай падзякі. Часта нашы людзі, атрымаўшы дапамогу з той жа Амерыкі, забываюць самае простае — падзякаваць за яе. Нам гэта вельмі непрыемна, бо людзі, якія ад шчырага сэрца збіраюць дапамогу, хочуць элементарна ведаць: ці даходзіць гэта ўсё тым, каму патрэбна. Яны хочуць мець сведчанне, што зрабілі добрую справу і што людзі ўдзячныя ім за гэта. Але дачакацца ўдзячнасці адсюль!.. І зусім ужо дзіка чуць: «Яны нам мала дапамагаюць. Яны павінны больш даваць. Трэба вырваць з іх больш!».

Гэта, на мой погляд, ідзе ад нізкай агульнай культуры. Той свет не вінаваты ў нашай бядзе: Чарнобыль мы нажылі самі. Так, гэта наша трагедыя, але свет не павінен аплачваць нашы памылкі. Дзякуй добрым людзям, што яны ў цяжкі час хочуць нам дапамагчы. Яны даюць столькі, колькі могуць. Сабранае там мы павінны паклапаціцца самі даставіць сюды. У нас жа лічаць: яны сабралі, яны павінны і даставіць нам. Падкрэсліваю: нам ніхто нічога не павінен.

І яшчэ пра адно ў сувязі з дапамогай. Тут выказваюць незадавальненне: не тое даюць. Але ж мы так накрычаліся на ўвесь свет: усе ў нас галодныя і голыя, што людзі, пачуўшы наш енк, эдпаведна і збіраюць — рэчы, якія ўжо былі ва ўжытку. Калі нам тое не патрэбна, не бярыце, але і не крычыце пра сваю галечу.

Мяне заўсёды непрыемна ўражвае, калі чую стогны адсюль: што рабіць — будзе голад?! Ды ведаю я сваю зямлю, ведаю людзей, можна жыць горш, цяжэй, гэта — так, але голаду не можа быць, калі ты не лайдак. У нас ёсць зямля, ёсць беларуская працавітасць, умельства — які тут голад! Нам трэба навучыцца працаваць і самім сябе забяспечваць. Свет нас утрымліваць не будзе. Дапамагаць нам могуць, спрыяць могуць, але карміць проста так, за тое, што мы такія на свеце ёсць, — не! Свет — цвярозы і дзелавы.

**— І вось у той свет імкнуцца адсюль нашы беларусы. Асабліва людзі маладзейшага веку. Гэта дзіўная і трывожная з'ява: тут, у сябе, мы палец аб палец не хочам ударыць, каб зрабіць наша жыццё лепшым, працуем — абы дзень да вечара. Імкнёмся па лепшае на Захад. І там будзем рабіць не так, як у сябе. Чаму ж мы не можам так працаваць у сябе дома!**

— Я думаю, таму, што за гады так званай савецкай рэчаіснасці была абсалютна абясцэнена якасць працы. А таксама — сумленнасць у працы. Калі чалавек бачыў, што ён ірве жылы, стараецца з апошніх сіл, а побач нехта лайдакуе, але атрымлівае тое ж самае, то праца для яго абясцэньвалася. Хітрасць, спрытнасць сталі цаніцца дзяржавай і людзьмі вышэй, чым сумленнасць. Скажам шчыра, што ў нашым грамадстве гэта — жахлівая рэчаіснасць.

І калі наш беларус прыязджае на Захад, дзе ён бачыць, як цэніцца праца, то ён там і робіць нармальна. Гэта па-першае. А па-другое, само асяроддзе не дазваляе яму паразітаваць.

У нас жа сумленная праца пакуль што не набыла такой вагі і каштоўнасці, як там. Я вось гляджу на цяперашні наш рынак (ці як яго назваць). Амаль што няма кааператываў, розных прадпрыемстваў, якія нешта выпрабляюць, — усё толькі перапрадаюць: з'ездзіў, некуды, купіў за рубель, прывёз, перапрадаў за дзесятку. Сумленная, шчырая праца і сёння ў нас не ў пашане.

**— Што б варта было параіць тым, хто імкнецца ў тую ж Амерыку, у іншыя краіны прадаваць свае рукі і галаву! Ад чаго перасцерагчы!**

— Я хацеў бы сказаць тым, хто імкнецца паехаць на Захад, дзве рэчы, пра якія яны павінны цвяроза ведаць. Першае. Каб жыць, можа і лепш, чым тут, трэба будзе працаваць, на перапродажы там фундамент дабрабыту не пабудуеш. Але працаваць трэба будзе цяжка, не так, як у нас. Другое. На першым часе, а для каго і на ўсё жыццё, — ты там чалавек чужы. Там свае парадкі, свае звычкі і традыцыі. Цябе не ўсе будуць падтрымліваць і разумець.

Там іншы свет.

Як гэта важна: бачыць тую рэчачку, што была ў тваім маленстве, тую сцежку, той лес, дзе засталіся твае сляды. Пакуль гэта з табой ёсць, ты нават не заўважаеш, не можаш ацаніць, — што яны для цябе. А калі адарваўся ад роднай зямлі, пачынаеш адразу разумець, што згубіў нешта невымерна дарагое.

Гэта вечныя ісціны.

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# МЫ ВАС РАЗУМЕЕМ, АЛЕ ЗРАЗУМЕЙЦЕ І ВЫ НАС

Ва ўрачыстасцях, прысвечаных 1000-годдзю Хрышчэння Белай Русі ў ліку іншых замежных гасцей прыняў удзел старшыня прыходу святога Кірылы Тураўскага Кастусь Мерляк і сакратар Васіль Шчэцька. Выкраіўшы пэўную хвіліну з насычанай, багатай на падзеі святочнай праграмы, госці наведалі рэдакцыю «Голасу Радзімы». Аднак часу сапраўды было ў абрэз. Таму, пераказваючы размову з К. Мерлякам, мы абмежаваліся ў асноўным тэмай, якая да гэтай пары яшчэ ніколі не раскрывалася,—Згуртаванне беларусаў у Аргенціне. К. Мерляк падараваў нам сваю кнігу, дзе ўпершыню, як нам здаецца, зроблена спроба даць на аўтабіяграфічным матэрыяле гістарычны агляд беларускай ваенна-палітычнай іміграцыі. Некалькі выняткаў з гэтай кнігі мы вырашылі ўключыць у тэкст, разлічваючы, што яны паслужаць добрым дадаткам да інтэрв'ю.

...Не будзе лішнім нагадаць чытачу, што Кастусь Мерляк — вядомы дзеяч не толькі царкоўнага, але і грамадскага жыцця беларускіх суайчыннікаў у Злучаных Штатах Амерыкі, адзін з актыўных сяброў Беларуска-амерыканскага задзіночання і Рады БНР.

**Вынятка з кнігі (прадмовы). «У 1960 годзе, вонкі сэсыі Рады БНР К. Мерляк пастанавіў пагаварыць на тэму «апазіцыі» з прэзідэнтам М. Абрамчыкам сам-насам. Ад гэтае гутаркі К. Мерляк стаўся «ворагам народу» ў БНР. Гэта была самая неабдуманая й блізарукая палітыка М. Абрамчыка й яго дараднікаў. Яна прывяла да дэзарганізацыі ў Радзе БНР, падзел у Ньюёркскім аддзеле БАЗА, цывільны суд БАПУ і падзел прыходу ў Брукліне і Нью-Ёрку».**

У 1947—1954 гадах ён жыў у Аргенціне. А тут багата чаго пабачыла на сваім вяку беларуская іміграцыя, падзеленая савецкімі ідыёлагамі на старую «прагрэсіўную» і новую «нацыяналістычную». І сказанае будзе толькі напалову поўным, калі не дадаць да яго, што і другая сусветная, і «халодная» вайна густа засадзілі гэты падзел буйным і доўгавечным зеллем варожасці. Нават там, на Паўднёвым конусе планеты...

Першыя «прагрэсіўныя» яшчэ з 1928 года засноўваюць нацыянальныя культурныя асяродкі; вядуць работу ў Кампартыі Аргенціны, у Славянскім саюзе; збіраюць сродкі на дапамогу Радзіме ў барацьбе з фашызмам; крок за крокам губляюць нацыянальнае змесціва і свядомасць у сваёй працы.

Другія тым жа часам ладзяць антыкамуністычную прапаганду супраць Пасольства СССР у Аргенціне і яго права прадстаўляць Беларусь, супраць Славянскага саюза, адкрываюць прадстаўніцтва ўрада БНР у Аргенціне... Менавіта спадар Мерляк у 1948 годзе засноўвае і затым узначальвае Згуртаванне беларусаў у Аргенціне (ЗБА), альтэрнатыўнае шматтысячным таварыствам працоўных імігрантаў, выхадцаў з Заходняй Беларусі. У ЗБА ўваходзяць былыя жаўнеры з корпуса генерала Андэрса, «дыпісты» з Германіі, Італіі, Аўстрыі.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**



# МЫ ВАС РАЗУМЕЕМ, АЛЕ ЗРАЗУМЕЙЦЕ І ВЫ НАС



ВОСЕНЬ. Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

— Спадар Мерляк, а як сустракалі вас, паваенных эмігрантаў працоўныя? Ці кантактавалі вы паміж сабой хоць бы на бытавым узроўні?

— Абсалютна ніякіх кантактаў ні на якім узроўні не існавала. На пляцы ў Буэнас-Айрэсе была вялікая гасцініца для эмігрантаў, дзе трэба было жыць, пакуль не дастанеш нейкую работу. На гэты пляц з'язджаліся ўкраінцы, палякі, беларусы, што належалі да Славянскага саюза і гаварылі: «Чего вы, изменники Родины, приехали в Аргентину, едьте назад». Слова за слова — і біцца. Прыходзіла паліцыя і разганяла іх...

— Ці шматлікім было ЗБА?

— Цяпер дакладна не памятаю, спіс сяброў мы не падавалі. Можна лічыць, дзвесце. Сярод першых прыгадаем М. Ланкевіча, А. Карповіча, інжынера Ф. Фаміна, А. Грынкевіча і многіх іншых. Пасля майго пераезду ў Злучаныя Штаты, недзе ўжо пры канцы пяцідзесятых, згуртаванне пераносіцца на прыватную кватэру. А калі праз шмат гадоў я наведаў Аргенціну і запрасіў іх да сябе, аказалася, што людзі па пятнаццаць гадоў не бачыліся.

— У Аргенціне вы былі прадстаўніком урада БНР у выгнанні. У чым заключалася ваша дзейнасць?

— Я атрымаў намінацыю ад старшыні Рады БНР М. Абрамчыка і пачаў працу. Хуткім часам мяне выклікаюць у Каардынасіён федэраль, палітычны аддзел Міністэрства ўнутраных спраў Аргенціны, і паказваюць мандат таксама на прадстаўніцтва Беларусі, выдадзены М. Мінкевічу, зяцю прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага. Я растлумачыў аргенцінцам прычыны ўзнікнення двух урадаў, хай выбіраюць каго хочуць. Той і будзе прадстаўніком ад беларусаў. Неўзабаве М. Мінкевіч выехаў у далёкую правінцыю лекарам, так што засталіся мы.

Падчас антыкамуністычнай дзейнасці мы афіцыйна рэпрэзентавалі беларускую калонію. Мелі паўгадзіны на радыё, дзе вялі перадачу для суайчыннікаў на іспанскай мове.

**Вынятка з кнігі. «...Дыскусійная валынка прадаўжалася больш за два гады, й вынікам было тое, што вытварыліся два лягеры: прыхільнікаў Крывіі й прыхільнікаў Беларусі. ...да прыхільнікаў Крывіі належалі пераважна каталікі, жыхары Заходняе Беларусі, а да прыхільнікаў Беларусі пераважна жыхары праваслаўнае Усходняе Беларусі. Аднак гэта ня быў стойкі падзел... Гэта была адна з першых прычынаў прышлага падзелу беларусаў на эміграцыі».**

— Спадар Мерляк, вы, як казалі, гасцілі на Навагрудчыне ў брата. Якое ўражанне зрабіла на вас беларуская вёска?

— Скажу, што вёска пакінута інтэлігенцыяй. Адсюль вельмі цяжкае становішча склалася адносна нацыянальнай свядомасці. Як яна не даходзіла туды раней, так і не даходзіць цяпер. Людзі падаліся мне дагэтуль застрашанымі. Як я даведаўся, каго вывезлі пасля вайны, добрых гаспадароў, а таксама асаднікаў, нявінных людзей, дык проста жахліва... Трэба думаць, што рабіць.

На развітанне пасля кароткага абмену думкамі ў рэдакцыі Кастусь Мерляк сказаў: «Мы разумеем, што вы вымушаны былі рабіць тое, што рабілі, але і вы зразумейце нас».

**Вынятка з кнігі. «Ён (Мерляк.— К. Ш.) ніколі беспасрэдна ня браў удзелу ў ніякіх акцыях і экспэдыцыях. К. Мерляк на працягу свайго жыцьця ніколі ня выстраліў у бок чалавека».**

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

# ЦІХІ, ЦЯРПЛІВЫ І ЧУЛЫ НАРОД

## БЕЛАРУСЫ І ПАЛЯКІ Ў АСВЯТЛЕННІ М. ФЕДАРОЎСКАГА

Далей этнограф не без падстаў адзначае, што маральная культура беларускага народа куды менш прасякнута Усходам, чым, напрыклад, самая блізкая яму па духу маларуская (украінская.— **А. Л.**). Федароўскі ў пэўным сэнсе мае рацыю, бо ўплыў ўсходняй культуры на культуру ўкраінскага этнасу тлумачыцца не толькі яго геаграфічным размяшчэннем, кантактаваннем з іранa- і цюркамоўнымі народамі, але і ўплывам іранскага субстрату на этнагенез украінцаў. Ва ўтварэнні ж беларускага этнасу прымалі ўдзел, акрамя славян (крывічы, дрыгавічы, радзімічы), і балты (літва, нальшчане, яцвягі і інш.) Вучоны піша, што у жылах беларусаў, акрамя ўласнай крыві, г. зн. крыві крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, цячэ яшчэ кроў літоўская, яцвяжская, польская і ўкраінская. Пэўны ўплыў на этнагенез беларусаў аказалі і крымскія татары, а таксама выхадцы з Польшчы, зямель Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў, Германіі, тэрыторыі сучаснай Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, якія пасяляліся на Беларусі асобнымі калоніямі ў XIII—XIX стагоддзях ці былі захоплены ў палон у выніку войн Вялікага княства Літоўскага з суседнімі дзяржавамі, а потым расселены на беларускіх землях.

Што тычыцца блізкасці духоўнай культуры беларусаў і ўкраінцаў, то яна тлумачыцца шэрагам фактараў этнічнага, дзяржаўнага, сацыяльна-эканамічнага, ваенна-палітычнага, канфесійнага і культурнага характару. Сярод іх важнейшае значэнне мае этнічны фактар. Справа ў тым, што дрыгавічы ў трэцяй чвэрці I тысячагоддзя н. э., паводле В. Сядова[1], уваходзілі нароўні з драўлянамі, палянамі і валынянамі ў адзін племянны саюз — дулебы. Таму мова і культура гэтых чатырох плямён былі ў многім падобныя.

Параўноўваючы беларуса з іншымі народамі цэнтральнай і ўсходняй Еўропы, этнограф лічыць, што ён бліжэй за ўсіх стаіць да чэха і немца, аднак адрозніваецца, напрыклад, ад апошняга «адсутнасцю парадку, сістэматычнасці і вялікай неахайнасцю. Разам з тым, абодвума імі (г. зн. беларусам і немцам. — **А. Л.**) кіруе толькі розум, не звыклы ў дзеянні звяртацца да душы і пачуцця».

Заслугоўвае асаблівай увагі думка Федароўскага, што ў беларускіх паданнях і традыцыйных песнях (за выключэннем некалькіх вясельных) Бог з маці Божай і святымі выступае не столькі на фоне візантыйскім ці рымска-каталіцкім, колькі на архаічна-паганскім. У нечым падобную думку выказаў С. Здзярскі ў сваёй рэцэнзіі на I том М. Федароўскага «Люд беларускі на Русі Літоўскай», адзначаючы, што на Беларусі «Бог з'яўляецца як бы язычніцкім Богам, толькі што адзіным».

Характар і паводзіны беларусаў, на думку этнографа, абумоўлены іх тэмпераментам. Паводле Федароўскага, беларусы па сваім тэмпераменце адносяцца да меланхолікаў, на фарміраванне якога аказалі ўплыў клімат і прырода Беларусі. У сувязі з гэтым вывадам вучонага адносна тэмпераменту беларусаў хочацца зрабіць некалькі заўваг. Папершае, вызначыць тэмперамент якога-небудзь народа бывае даволі цяжка, бо гэта нялёгка часам зрабіць нават у адносінах аднаго чалавека. Вядома, што чалавек у адных сітуацыях можа паводзіць сябе як меланхолік, у другіх як флегматык і г. д. Ды ясна, што ў кожнага народа ёсць прадстаўнікі ўсіх чатырох тэмпераментаў. Сказаць, што ўся нацыя складаецца з адных меланхолікаў, дык гэта яўна рабіць нацяжкі. У беларусаў, на маю думку, пануюць тры тыпы тэмпераменту: флегматычны, меланхалічны і сангвінічны. Аднак сярод іх больш флегматыкаў і меланхолікаў, чым сангвінікаў. У той жа час халерычны тып у прадстаўнікоў нашага этнасу сустракаецца не так часта.

Па гэтай жа прычыне (тып тэмпераменту) пасіўны беларус быццам бы не здольны, на думку этнографа, да самаахвярнасці, нават на разбойніцкія напады і прававыя злачынствы. «Вышэйшых імкненняў, запатрабаванняў ні кроплі ў яго няма з-за цяжкасцей, небяспек...» У такім разе ў Нямеччыне ў мінулым стагоддзі, можа быць, яшчэ менш рабілася прававых злачынстваў, чым на Беларусі, але гэта яшчэ не значыць, што немцы з'яўляліся выключна меланхолікамі, не здольнымі да самаахвярнасці і прававых злачынстваў. Такім чынам, характар, паводзіны людзей матывуюцца не толькі тэмпераментам, але і сацыяльна-эканамічнымі, гістарычнымі, культурнымі ўмовамі іх жыцця. На думку вучонага, беларус, як усе тыповыя меланхолікі, маючы халодную галаву, будучы па натуры сваёй эгаістам, пазбягаючы людзей, быццам бы найменш здольны сярод славянскіх народаў да сумеснага парыву, дзеяння. Таму беларускі народ, піша Федароўскі, не мог дагэтуль даць энтузіястаў, пакутнікаў ідэі, герояў і па гэтай прычыне не мог стварыць палітычнай самастойнасці.

Аднак з вывадам вучонага пагадзіцца можна толькі часткова, бо продкі сучасных беларусаў аб'ядноўваліся ў барацьбе як супраць знешніх ворагаў (крыжакі, татары, шведы, туркі і інш.), так і згуртоўваліся (просты люд) у змаганні супраць уласных прыгнятальнікаў (удзел народа ў вечах XI—XII стагоддзяў, народныя бунты і паўстанні XV—XX стагоддзяў).

Этнограф дае супярэчлівую ацэнку духоўнай сіле і творчай патэнцыі нашага народа. З аднаго боку, ён недаацэньвае духоўныя і маральныя магчымасці беларусаў: беларусы, па яго словах, не далі ні прапаведнікаў, ні герояў, ні святых пакутнікаў. Разам з тым Федароўскі піша: «У яго прыродзе столькі творчых сіл і такая моц духоўнага пабуджэння да маральнай і разумовай дзейнасці», што «Беларусь у далейшай ці бліжэйшай будучыні праславіцца сярод славян як айчына вялікіх мысліцеляў, вучоных і спевакоў».

Беларуская зямля дала шмат адораных асоб, якія пры спрыяльных умовах служылі на карысць роднай айчыны (С. Полацкі, К. Тураўскі, Ф. Скарына, М. Гусоўскі, В. Цяпінскі, браты Вашчанкі, браты Мамонічы і інш.), а пры неспрыяльных вымушаны былі працаваць на ніве навукі і культуры суседніх і іншых народаў (А. Міцкевіч, У. Сыракомля, М. Агінскі, М. Сіліванoвіч, С. Манюшка, І. Дамейка і інш.). У асобныя ж перыяды свайго развіцця наша культура аказала значны ўплыў на культуру, у тым ліку мову, літаратуру, кніжнае мастацтва, жывапіс, насценны роспіс, права і да т. п. літоўскага, латышскага, рускага, польскага, украінскага, нямецкага народаў.

Беларусь дала не толькі буйных пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, але і шчырых змагароў за свабоду айчыны (У. Полацкі, Д. Гарадзенскі, К. Астрожскі, Л. Абуховіч, А. Амелькавіч), кіраўнікоў і актыўных удзельнікаў барацьбы ўкраінскага і беларускага народаў 1648—1654 гадоў (М. Крычэўскі, Ф. Гаркуша, Сакалоўскі), кіраўнікоў паўстанняў 1743—1744 гадоў (В. Вашчыла), 1794 года (Т. Касцюшка, М. К. Агінскі), 1830—1831 гадоў (Ю. Кашыц), 1863—1864 гадоў (К. Каліноўскі, Р. Траўгут), рэвалюцыянераў-народнікаў (І. Грынявіцкі, А. Бонч-Асмалоўскі, браты Бычковы), дзеячаў рэвалюцыйнага, у тым ліку міжнароднага руху (М. Судзілоўскі, У. Бонч-Бруевіч, П. Лепяшынскі), грамадскіх і палітычных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі (Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла, Г. Валошын), буйных военачальнікаў, арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў час грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў (У. Бонч-Бруевіч, В. Казлоў, М. Каралёў, У. Вашкевіч і інш.). Гэтыя і іншыя факты сведчаць, што Федароўскі суб'ектыўна ацэньваў жыццёвую сілу, духоўную патэнцыю, гістарычнае мінулае беларусаў і іх тэмперамент.

Закранаючы пытанне гістарычнага прызначэння (місіі) некаторых народаў, у тым ліку беларускага, этнограф мяркуе, што беларусы як ціхі, цярплівы, ураўнаважаны і вельмі чулы на ўсе крыўды народ і які, як ніводзін іншы, захоўвае традыцыі першапачатковай дабрачыннасці, павінен быць сейбітам дабра, справядлівасці, ладу і міру, павінен у значнай ступені пасадзейнічаць ператварэнню ў жыццё прынцыпаў евангелля, вырашэнню сацыяльна-рэлігійных праблем, г. зн. быць для іншых народаў, як ён вобразна выказваецца, жыватворнай расой.

Разважаючы далей пра беларускі характар, Федароўскі сцвярджае, што беларус па сваёй прыродзе — найбольш ідэальны суддзя, пасрэднік, які цэніць вышэй за ўсё згоду, вечна гатовы ладзіць і нават зрабіць ахвяру з таго, з чаго б прадстаўнік іншага этнасу, можа быць, ніколі б не зрабіў. У сувязі з гэтым ён піша, што калі б, напрыклад, можна было прымірыць антаганізмы паміж Усходам і Захадам (Федароўскі не дапускае гэтага.— **А. Л.**) і быў знойдзены нейкі пункт судакранання паміж імі, то яго, безумоўна, не знайшоў бы ўспыльчывы і фанатычна-гарачы ў сваіх пачынаннях паляк, але знайшоў бы разважлівы і стрыманы беларус, бо ён хоць і не здольны, як паляк, з цела зрабіць ахвяру, але лёгка яе зробіць з духу, ставячы і «богу свечку і чортаві нават дзве» для святой згоды і заўсёды мілага міру.

У канцы нарыса Федароўскі дае суайчыннікам наказ, каб у час нацыянальнага адраджэння беларусаў палякі дапамагалі сваім суседзям не толькі з-за ўдзячнасці да іх, але і па прычыне гістарычнай місіі польскага народа.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

[1] Седов В. В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1970. С. 92—93.

Заканчэнне. Пачатак у № 42.

# МОЙ ЖЫЦЦЯПІС

Эмілія КАЗАК – КАЗАКЕВІЧ



Тыя з беларускіх настаўнікаў, якія добра ведалі латышскую мову, працавалі рэзервнымі настаўнікамі, замяшчалі захварэўшых. Частка беларускіх настаўнікаў працавала ў школах змешаных нацыянальнасцяў. А тыя з нашых калегаў, якія дрэнна ведалі латышскую мову і не хацелі яе вывучаць, раз'ехаліся, хто куды. Большасць накіравалася да бацькоў працаваць на гаспадарцы.

Я атрымала права на выкладанне латышскай мовы, гісторыі і геаграфіі Латвіі, а пазней і на выкладанне рускай мовы. У 1936 годзе выехала з Рыгі. Цяжка і балюча было пакідаць Рыгу, добрых, шчырых калег, сям'ю Сахаравых, якую я вельмі паважала, а з дачкой дырэктара дружыла з дзіцячых гадоў. Мы з Галінай Сахаравай у гімназіі сядзелі на адной парце і ніколі адна без другой нікуды не хадзілі ні ў Дзвінску, ні ў Рызе. Яна была ўжо хворай на сухоты, але ніхто не думаў, што яна можа ў такія маладыя гады адысці ад нас.

Прыехаўшы на вёску, я пастаяннай працы не мела. З 1933 па 1940 гады працавала больш як у дваццаці трох школах. Працавала ў Рызе, у Рыжскім, Даўгаўпілскім, Рэзэкненскім, Абрэнаўскім паветах. Жыццё кідала мяне, як марская хваля, у розныя куткі Латвіі.

Латышы пры Карлісу Ульманісу стараліся людзей нацыянальных меншасцяў аблатышываць. Прапаноўвалі мяняць прозвішчы на латышскія, пісацца латышамі па нацыянальнасці. Такая прапанова была зроблена і мне. Але я адказала, што не хачу, каб беларусы мяне лічылі прададзенай, а латышы — купленай. Даказвала, што ад змены прозвішча чалавек не зменіцца, але сумленне яго будзе мучыць увесь час. Пасля гэтага мяне пакінулі ў спакоі, але пастаяннай працы так і не далі.



У Латвіі пры Ульманісу ўсе вёскі былі раздзелены на хутары. Людзям прыходзілася занава будавацца, пераносіць будынкі з вёскі. Назвы хутароў у большасці былі латышскія.

У 1931 годзе была збудавана Індраўская сямігадовая дзяржаўная латышская школа. І хоць у Індры і акрузе латышоў амаль не было, у школе было шмат вучняў, бо Індра з'яўлялася цэнтрам. Тут былі магазіны, гміна, пошта, аптэка, чыгуначная станцыя. Вялікая і прыгожая школа была афармлена з густам. Ля школы былі прыгожыя дарожкі, кустарнікі, дрэвы, сад. Гэта запраўды быў цэнтр культуры. У такой школе было прыемна вучыцца. Вучні атрымлівалі моцную веду, развіццё фізічнае і культунае. Выхаванне было латышскае. Настаўнікаў было многа. Вучням беларусаў, асабліва малодшых клясаў, вучыцца было цяжка: сядзелі яны па 2—3 гады ў адной клясе. Трэба было вывучыць мову...

Беларускія школы былі 4-клясовыя. Вучняў было мала. Часта ў такой школе быў адзін настаўнік, які не меў нават сярэдняй адукацыі. Латышскай мовы не ведаў, а яе трэба было ведаць, бо ва ўсіх установах ужывалася толькі латышская. Нават на пошце, каб купіць марку, трэба было звяртацца па-латышску. Хаця начальнік пошты быў не латыш і добра ведаў рускую і беларускую мовы. Такая была пастанова.

У беларускіх школах веда вучняў была вельмі нізкай. Закончыўшы 4 клясы, вучні не маглі далей вучыцца, не было ў іх развіцця, не хапала ведаў па ўсіх прадметах. Латышскай мовы яны не ведалі.

Для тых, хто скончыў латышскую школу, дзверы для далейшай вучобы былі адчынены. Вось таму ўсе ішлі вучыцца ў латышскую школу.

Беларуская гімназія была зачынена, а гэта значыць, што вучыцца ў пачатковай беларускай школе ўжо не было патрэбы. Бо, скончыўшы яе, можна было працаваць толькі на гаспадарцы ў хаце, альбо ехаць у заработкі наймітам да латышоў.

Беларусаў латышы лічылі камуністамі, чужынцамі. Вядома, што ў такіх умовах нялёгкімі былі жыццёвыя сцежкі беларусаў. І ўсё ж па цярністым шляху беларускі народ Латвіі ішоў да святлейшых, лепшых дзён. Абуджаны адзін раз, ён больш заснуць не мог.

Прыйшло лета 1940 года з яго велічным хараством. У адзін з такіх пагодных, светлых дзён у Дзвінску адбылося свята песні. Раніцай у добрым настроі я з сяброўкай паехала ў Дзвінск на гэтае вялікае свята. Прыехалі рана, пайшлі на бераг Даўгавы адпачыць. Паветра было чыстае. Адпачыўшы, праз дзве-тры гадзіны мы пайшлі на пляц, дзе павінна было адбыцца свята песні. Сярод удзельнікаў пачаўся якісьці трывожны рух. Чакалі прэзыдэнта К. Ульманіса, які заўсёды ўдзельнічаў ва ўсіх урачыстасцях. А яго не было. Ульманіс заўсёды адведваў выстаўкі, прымаў удзел у дзіцячых святах, якія кожную вясну ў Рызе адбываліся ў адным і тым жа парку, дзе кожная школа мела сваё пастаяннае мейсца. На гэты раз Ульманіс не прыехаў, і ўсе не ведалі, што рабіць. І вось калі павінна было адбыцца выступленне хору, Ульманіс па радыё сказаў: «Прыехаць не магу. Я застаюся на сваім мейсцы. Вы заставайцеся на сваіх мейсцах. Ра́джу вам купіць дзве пары юхтовых ботаў».

Цяпер ужо ўсе ведалі, што ў Латвію павінна ўступіць Чырвоная Армія.

Свята адбылося, але ўрачыстасці не было. Кожны спяшаўся дахаты. Я паехала да бацькоў, каб іх аб гэтым паведаміць.

Як толькі Чырвоная Армія ўступіла ў Латвію, адбыліся ўрачыстыя мітынгі па ўсёй краіне. Пасля аднаго такога мітынгу беларуская моладзь Індры пратанцавала ў латышскай школе «Лявоніху». Усе разышліся потым па сваіх справах.

Я паехала ў Абрэнаўскі павет у школу, дзе перад гэтым працавала. Забрала свае рэчы і накіравалася ў Рыгу. Пачала працаваць у школе на Чырвонай Дзвіне, у якой амаль усе настаўнікі былі старыя знаёмыя.

Школа была рускай.

Як толькі Ульманіс пакінуў свае палацы, то ўсім, хто хацеў, дазвалялася іх аглядаць. Я прайшла па ўсіх гэтых пакоях, якія былі ўжо пустыя, толькі ў двары яшчэ стаяў невялікі самалёт. У скорасці гэты палац быў перададзены піянерам.

У Індры была таксама руская школа. Не хапала настаўнікаў. Мяне папрасілі прыехаць працаваць у Індру. Я вырашыла пераехаць, каб дапамагаць бацькам. Хаця і добраахвотна, але са слязамі на вачах я развіталася з калегамі і паехала ў Індру. У Індраўскай школе з беларусаў працавалі: Язэп Клагіш, Мечыслаў Слосман, Юзэфа Оруп, Мечыслаў Юркевіч, Кацярына Зейгліш, Аляксандр Юркевіч, Язэп Зашчырынскі і іншыя. Усе настаўнікі былі перагружаны працай. Лекцыі, даклады, пастаноўкі, выезды з лекцыямі ў вёскі — усё ляжала на плячах настаўнікаў. Спачатку ўсе інструкцыі, а іх было многа, прыходзілі на латышскай мове, і іх трэба было перакладаць на рускую. Прыходзілася сядзець начамі. Усё гэта з часам упарадкавалася б, але зусім нечакана 22 чэрвеня 1941 года пачуліся грымоты, даносіліся выбухі бомбаў, пачуліся і стрэлы, якія ўсё прыбліжаліся. Пачалася вайна. Вельмі нямногім маладым хлопцам, як, напрыклад, Аўдзюкевічу і Кучыку, удалося далучыцца да адступаючай Чырвонай Арміі і разам з ёй пайсці абараняць свой родны кут, сваю зямлю, свой народ.

Неўзабаве прыйшлі немцы. Наступіла няволя, прыйшла бяда. Немцы пачалі наводзіць свае парадкі. Латышы адразу адчулі сябе гаспадарамі, хаця і ў залежнасці ад немцаў. У Індры зноў пачала працаваць латышская школа, кіраўніком якой быў Алфрэд Магоніс. Ён вельмі не любіў беларусаў, але не ўсё залежала ад яго. Беларусы таксама адчынілі ў наваколлі Індры некалькі беларускіх пачатковых школ, а ў Індры— беларускую гімназію, дырэктарам якой спачатку быў Сахараў С. П., а пазней Радзько Аляксандр Захаравіч.

На чале ўсяго беларускага руху быў Езавітаў Канстанцін Барысавіч. Інспектарам беларускіх пачатковых школ быў Махноўскі Аляксандр, былы настаўнік беларускіх пачатковых школ.

Беларусам жылося асабліва цяжка. Яны цярпелі ад немцаў і латышоў. Магоніс і яго прыхільнікі, як, напрыклад, Міцкевіч Юзік, выдумвалі розныя небыліцы, каб толькі як-колечы пакараць беларусаў за тое, што яны хочуць «людзьмі звацца», імкнуцца да асветы, стараюцца захаваць і развіваць сваю культуру. Вось Магоніс і напісаў на мяне, што я камуністка і маю сувязь з партызанамі. Гэта была правакацыя, але для арышту было дастаткова. Арыштоўваў мяне Міцкевіч Ю. Ён быў вельмі шчаслівы і радасны за тое, што яму даверылі аружжа. Гэты прыстасаванец і здрайца, пераязджаючы з аднаго мейсца на другое, жыве і зараз дзесь ля Рыгі. Некалькі дзён я сядзела ў школьным гардэробе, пазней, калі набралася многа арыштаваных, мы былі пераведзены ў школьны зал, адтуль нас адправілі ў Дзвінск, дзе мы сядзелі ў падвале дома карнікаў. Праз некалькі дзён мяне перавялі ў Дзвінскую турму, дзе я сядзела ў агульнай камеры. Разам са мной былі дзве настаўніцы, многа жанчын і сярод іх адна 90-гадовая бабуля. Гаварыла яна толькі на польскай мове. Абвінавачвалі яе ў тым, што нібы яе маці, якая была служанкай у графа Плятара ў Краславе, мела сувязь з яўрэем і што ад таго яўрэя нарадзіла яе. Бацька якой нібы быў яўрэй. Праз некі час гэту бабульку перавялі ў камеру, дзе сядзелі яўрэі. З турмы групамі забіралі людзей. Адных вывозілі ў Нямеччыну, другіх высылалі ў лагеры, а тых, якіх выводзілі ўначы, вялі ў агарод і расстрэльвалі.

Аднаго дня раніцай прыйшлі і за мной. Сказалі сабірацца. Я развіталася з астаўшыміся ў камеры і пайшла. Куды—не ведала. Сэрца закамянела, і мне было ўсё роўна, куды павядуць. Добрага я не чакала.

Мяне завялі ў кантору турмы, запыталі прозвішча і адрас. Паказалі данос Магоніса з яго подпісам. Аддалі мне мой гадзіннік. Гэтаму я вельмі здзівілася. Пачалі нешта друкаваць. Запыталі, куды я хачу ехаць. Я падумала, што гэта насмешка, але адказала, што ў Індру. Прылажыўшы пячатку на паперы, якую друкавалі пры мне, падалі яе, нічога не гаворачы. Я трымала пропуск, у якім было напісана, што звольнена з турмы і маю права ехаць у Індру. Салдат праводзіў мяне да варот. Пакінуўшы вастрожныя сцены, я ў першую чаргу пазваніла ў школу і паведаміла аб сваім звальненні, потым зайшла да інспэктара А. Махноўскага, які і расказаў мне, што яму пры дапамозе мастака МіRановіча Пятра Тамашавіча ўдалося вырваць мяне з турмы раней, чым адправіўся эшалон у Нямеччыну, у якім павінна была ехаць і я. Многіх людзей ратавалі ад катаргі Міановіч і Махноўскі. У часе адступлення яны апынуліся за мяжой, дзе памерлі на чужбіне. Здрайцамі яны не былі. Яны абаранялі людзей ад няволі.





**НА ЗДЫМКАХ: Шыляўская беларуская школа; вучні Індраўскай сярэдняй школы танцуюць «Лявоніху». 1940 г.; педагагічная рада Дзвінскай гарадской беларускай народнай школы (вул. Ковенская, 8), 1942/43 навучальны год. У першым радзе ў цэнтры педагог і рэжысёр Язэп КАМАРЖЫНСКІ, другі злева — выкладчык Закона Божага ксёндз Язэп ГАЙЛЕВІЧ.**

**Працяг. Пачатак у № 40—42.**

# ЛЮБІМАЕ ДЗІЦЯ БОГА

## Да 100-годдзя Марыны ЦВЯТАЕВАЙ

Некалі я лічыла: пра генія мае права пісаць толькі геній. Калі стала дарослай, зразумела, што геніяў — мала, а тых, каму хочацца пісаць, значна больш. Але пісаць пра Цвятаеву? Пра тую, якая вышэй усялякіх слоў, бо сама стварала іх, якая сказала пра сябе ўсё: і пра тую, што жыла, і пра тое, што будзе з ёю, калі не будзе ўжо нічога.

Трагічны лёс для паэта ў Расіі быў непазбежнасцю, а талент — прысудам. Каму, як не ёй, было гэта ведаць. Адвечная «белая варона», якую не заўсёды разумелі нават самыя блізкія, ці была яна шчаслівай? Была, як бывае шчаслівым сапраўдны творца, які стварыў **нешта** і ўбачыў, што гэта добра. Была, нягледзячы на ёю самою сказанае: «Паміж паўнатою жадання і выкананнем жаданняў, паміж паўнатой пакут і пустатой шчасця мой выбар быў зроблены ад нараджэння». Гэтай фразай яна не самога шчасця выракалася, а яго агульнапрынятага разумення, спрошчанага абагульнення, супраць якога паўстае любая сапраўдная асоба.

«Ніколі не гаварыце, што так усе робяць: усе заўсёды дрэнна робяць, калі так ахвотна на іх спасылаюцца. Ва «ўсіх» ёсць другое імя — ніхто, і зусім няма твару — прабел. Ну а калі вам скажуць: «Так ніхто не робіць (не апранаецца, не думае і г. д.) — адказвайце: «А я — хто!» Так, Марына Цвятаева была **хто**. Ёй ніколі не было проста — ні ў жыцці, ні ў вершах. Хаця, калі чытаеш яе, у гэта не верыцца: такія лёгкія і зграбныя вершы, так выключна дакладна знойдзена месца кожнаму слову. Яе вершы — не канструкцыі, яны — адліўкі, цэльныя і непадзельныя, інстынктыўна ўгаданай адзіна магчымай ідэальнай формы. Адкуль гэта? «Усялякі радок—супрацоўніцтва з «вышэйшымі сіламі»... А як жа інакш, калі «...жывучы з вершамі з... да з таго часу, як нарадзілася! — толькі гэтым летам даведалася ад свайго выдаўца, што такое харэй, што такое ямб, дактыль. Я жыву — і, значыць, пішу — па слыху, г. зн. на веру, і гэта мяне ніколі не падманвала». Яе паэзія была жаночай, але не жаноцкай — напісаная цвёрдай мужчынскай рукой. Яна ніколі не была (і сама сябе не называла) паэтэсай. Толькі — паэт.

Не многа шанцавання было ў складаным лёсе Марыны Цвятаевай, але першапачатковая, бясспрэчная ўдача — яе сям'я. Бацька, Іван Уладзіміравіч Цвятаеў, прафесар Маскоўскага універсітэта, пазней — дырэктар Румянцаўскага музея і заснавальнік Музея імя Пушкіна. Маці, таленавітая піяністка, якая добра ведала і вельмі тонка адчувала музыку. Строгае і падкрэслена духоўнае жыццё ў доме — вось тая атмасфера, якая фарміравала яе моцны і самастойны характар. Першыя зборнікі, прызнанне, Кактэбель, каханне — усё гэта было, было да таго моманту, які падзяліў на «да» і «пасля» жыццё цэлай краіны. Рэвалюцыйная Расія выціснула Цвятаеву з сябе, выштурхнула, як іншароднае непатрэбнае цела. Маладая краіна была бяздумна шчодрай і бесклапотнай, як дзіця, якое ламае і губляе каштоўныя рэчы, не задумваючыся ні пра іх вартасць, ні пра тое, адкуль узяць новыя. Гавораць, у вялікім арганізме рэакцыі замаруджаны, і боль ад гэтай страты мы адчуваем толькі зараз. А тады — гады эміграцыі, чужыя краіны, чужыя людзі, жабрацтва, немагчымасць падаць голас, вяртанне дамоў, зневажанне, расстанні, смерць. Аднойчы страціўшы сваю «экалагічную нішу», яна ўжо ніколі не змагла знайсці сабе месца—ні ў Чэхіі, ні ў Парыжы, ні ў сэрцах тых, каго любіла. Ні ў Елабузе. Чаму Цвятаева пакончыла з сабою? Што было дакладнай прычынай яе ўчынку? Пра гэта можна толькі здагадвацца. Мне ж падаецца, што ў яе проста была зусім іншая, не такая, як ва ўсіх (і ўсяго) навокал, група крыві. І спроба прызвычаіцца да жыцця і людзей, якая працягвалася ўсё яе жыццё, у рэшце рэшт скончылася поўным крахам.

«А ведаеце, Пастэрнак, вам трэба пісаць вялікую рэч», — піша яму Марына ў 1923 годзе. Ці думаў пра яе Барыс Леанідавіч, калі пісаў раман «Доктар Жывага», хто ведае? Але яна аказалася адной з тых, пра каго ён, — пясчынка, падхопленая ўдарнай хваляй рэвалюцыі асоба, лёсам якой так несправядліва распарадзіўся час, гісторыя, людзі... «Я сама абрала свет нечалавекаў, што ж мне наракаць?»

Гэта было з паэтамі і да яе: чым больш узвышаныя імкненні, думкі і пачуцці, тым больш настойліва лёс акунае ў побыт. У поўнай меры паспытала гэта і Цвятаева. І можа, менавіта на вастрыі гэтай невырашальнай супярэчлівасці і нараджалася прадракальная здольнасць, па словах Пастэрнака, «знацца з будучыняй у быце», якая дала лепшае ў рускай паэзіі. Што зробіш, паэты —любімыя дзеці Бога, мабыць, таму яны так часта ў сваім зямным жыцці праходзяць хрэсны шлях, выкупляючы нашы грахі. Але, як любімых дзяцей, Гасподзь выслухоўвае іх першымі і адказы дае больш хутка...

За што любяць Цвятаеву? За тое ж, за што і ўсіх іншых паэтаў, пра гэта таксама сказала яна сама: «У чужым мы заўсёды любім сваё». Чым больш паклоннікаў у паэта, тым больш людзей знайшлі ў ім сваё, запаветнае, тым пра большую колькасць іх ён сказаў тое, што толькі яны самі пра сябе і ведалі.

Усё ў жыцці мае дзіўнае і дасканалае завяршэнне, усё. Вершы Марыны Цвятаевай загучалі на мове зямлі, дзе амаль паўвека таму пралілася яе кроў, кроў адзінага і горача любімага сына, які загінуў і пахаваны на Беларусі. Я не мовазнаўца, але мне падаецца, што беларуская мова асабліва добра «падыходзіць» да вершаў Цвятаевай. Пяшчотная і ласкавая, прасякнутая музыкай у кожным гуку, яна здольная перадаць унутраную напеўнасць Марыніных вершаў. І хто ведае, можа гэтыя пераклады наблізяць да некага вершы вялікага паэта, і новыя чытачы з'явяцца ў «балярыні Марыны» (як яна сама сябе называла), моцнай жанчыны, якой так хацелася быць слабай і якой так і не надалася такая магчымасць.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**Вершы М. Цвятаевай на беларускую мову пераклала Валянціна АКОЛАВА.**

**Марына ЦВЯТАЕВА**

### БЯССОННІЦА

**З чыстай ласкай, без аглядкі,**
**Нехта цінькае ў сасне.**
**Чарнабровае дзіцятка**
**Мне прымроілася ў сне.**

**Так вось з чырвані-сасонкі**
**Жаркай капае смала.**
**Так вось ноччу стрункай тонкай**
**Рэжа сэрца кроў-піла.**

***

**Жнівень — астры,**
**Жнівень — зоркі,**
**Жнівень — гронкі**
**Вінаграду і рабін**
**Іржавых — жнівень!**

**Паўнаважным, дабрадзейным**
**Яблыкам сваім імперскім,**
**Як дзіця, гуляеш, жнівень,**
**Як далонню, гладзіш сэрца**
**Іменем сваім імперскім:**
**Жнівень — сэрца.**

**Месяц позніх пацалункаў,**
**Ліўняў і маланак позніх!**
**Ліўняў зорных —**
**Жнівень — месяц**
**Ліўняў зорных.**

***

**Рукі люблю цалаваць,**
**І дзецям імёны даваць,**
**І яшчэ —**
**Расчыняць дзверы**
**Цёмнай начы — насцеж!**

**Сціснуць скроні**
**Далонькмі**
**І слухаць,**
**Як крокі лягчэюць,**
**Як вецер здзічэлы**
**Будзіць бяссонны лес.**

**Ах, ноч!**
**Дзесьці бяруць ключы.**
**Сны — на далоні.**
**Сны — на плячы.**
**Дзесьці ў начы**
**Чалавек тоне.**

***

**Ты ўчора ўсё ў мой бок глядзеў,**
**А сёння—позіркі раскосыя!**
**Ты ўчора ноч са мной сядзеў,**
**А сёння сэрцы — базгалосыя.**

**Разумны ты. Дурніца я.**
**Жывы, а я — нібы распятая.**
**За ўсіх жанчын віна мая:**
**«А ў чым, мой любы, вінавата я!!»**

**І слёзы ёй — вада, кроў — боль,**
**Вада — крывёй, слязьмі памылася.**
**Ці ж маці! Мачаха-любоў:**
**— Суда не знае і не міласці.**

**Развозяць мілых караблі,**
**Дарога зімамі зацятая.**
**І стогн стаіць па ўсёй зямлі.**
**«А ў чым, мой любы, вінавата я!»**

**Ты ўчора ж каля ног ляжаў,**
**Раўняў з кітайскаю дзяржаваю.**
**Раптоўна ручанькі разжаў...**
**Лёс, як капейка стаў іржавая!**

**Дзетазабойцай на судзе**
**Стаю нямлівая, заклятая.**
**І ў пекле вырвецца з грудзей:**
**«А ў чым, мой любы, вінавата я!»**

**Спытаю стул, начлежны дом,**
**За што цярплю, гаротная!**
**Адцалаваў цішком, тайком.**
**Другую лашчыш... Я ж свабодная!**

**Жыць прывучыў мяне ў агні.**
**З ільдамі стэпу я засватана!**
**Вось колькі, любы, ўсёй віны!**
**А ў чым, мой любы, вінавата я!**

**Хай цень ступае за табой!**
**Мой зрок цяпер не палюбоўніцы.**
**Дзе адступаецца любоў,**
**Туды прыходзіць смерць-садоўніца.**

**Спадуць на дол і карані,**
**Плады ад яблыні багатыя...**
**За ўсё даруй, за ўсё віні,**
**А ў чым, мой любы, вінавата я!**

### БАБУЛІ

**Прадаўгаватага твару авал,**
**Чорнай сукенкі раструбы...**
**Свеце бабуля, а хто цалаваў**
**Вашы дзявочыя губы!**

**Рукі, што ў ноч адмыкалі замкі,**
**Вальсы Шапэна ігралі...**
**Музыка лёсу гучыць праз вякі,**
**Локанаў свецяць спіралі.**

**Цёмны, круты і суровы пагляд,**
**Да абароны гатовы.**
**Так не глядзяць маладзіцы назад.**
**Свеце бабуля, ды хто вы!**

**Колькі магчымасцей вы не змаглі!**
**І немагчымасцей колькі**
**Канула ў вечную прорву зямлі,**
**Дваццацівёсная полька!!**

**Дзень невіноўны быў, вецер быў свеж,**
**Цёмныя зоры паснулі.**
**Свеце бабуля, пачуццяў мяцеж**
**Вы свой мне ў сэрца кінулі!**

# І. РАГАЧОЎ: АБ ЧЫМ РАСКАЗВАЕ НАЗВА?

## *ГОРАДУ—850 ГАДОЎ*

На гербе Рагачова ў ніжняй частцы шчыта ў залатым полі адлюстраваны чорны бараноў рог. У верхняй частцы — намаляваны традыцыйны царскі двухгаловы арол. Такі герб быў дадзены гораду 16 жніўня 1781 года, прыкладна ў адзін час з атрыманнем гербаў іншымі гарадамі былога Магілёўскага Намесніцтва, далучанымі да Расіі ў 1772 годзе. Цяпер ад былога герба па зразумелых прычынах засталася толькі адна, ніжняя частка шчыта.

Герб Рагачова, па задуме яго стваральнікаў, сімвалізаваў імя горада. У складзе назвы Рагачоў сапраўды маецца каранёвая частка рог. Але ж сама назва гістарычна мела зусім іншае значэнне, і з выявай баранова рога яе звязвалі выключна знешнія, апасродкаваныя асацыяцыі.

Традыцыйна дадзеную геаграфічную назву тлумачаць пры супастаўленні са старажытнарускім словам рогъ у значэнні «мыс» (горад упершыню згадваецца ў старажытнарускі час у Іпац'еўскім летапісе пад 1142 годам). Пры такім тлумачэнні спасылаюцца на тое, што Рагачоў узнік пры сутоках Дняпра і Друці, гэта значыць ля «рога». Рог тут разумеецца менавіта як мыс, выступ, стрэлка пры зліцці рэк, лука ракі і г. д.

Зрэшты, слова рог у даным выпадку можна разумець і ў «беларускім сэнсе» — як «вугал» (пры зліцці Друці і Дняпра ўтвараецца рог — вугал, дзе і размешчаны Рагачоў).

Такія тлумачэнні былі б магчыма, і прымальнымі, калі б не дзве акалічнасці. Папершае, многія старажытнарускія гарады ўзнікалі якраз пры злучэнні малой і больш вялікай рэк, гэта значыць «на рагу». Аднак чамусьці пасяленні не атрымлівалі ўсе выключна адно і тое ж адпаведнае найменне.

Па-другое (што больш істотна), у назве Рагачоў вычляняецца ўтваральная аснова Рагач-, а зусім не Рог, як, напрыклад, у найменнях вёсак Рог Петрыкаўскага, Кіраўскага і Салігорскага раёнаў Беларусі ці ў назве горада Рогаў у Кіеўскай зямлі (згадваецца ў старажытнарускі час у летапісным запісе пад 1194 годам).

На нашу думку, аснова Рагач-, хутчэй, можа мець антрапанімічнае паходжанне, гэта значыць, узыходзіць да асабовага імя Рагач ці такой жа мянушкі, якія насіў нейкі чалавек, верагодны князь ці правадыр той групоўкі, што асвойвала зручную з розных пунктаў гледжання пляцоўку пры ўпадзенні Друці ў Днепр. Такім чынам, Рагачоў —горад Рагача.



Сёняшні Рагачоў.

Такая мянушка — Рагач ці яшчэ Рагаль — была даволі ўжывальнай у старажытнарускі час. Яе надавалі чалавеку магутнаму, дужаму, бо паняцце рог у далёкім мінулым у славян і ў іншых народаў асэнсоўвалася як сімвал жыццёвай сілы, урадлівасці, багацця. Адпаведнае слова ў старажытнаіндыйскіх гаворках (санскрыт) азначала «дрэва» (сімвал росту, жыцця). Слова рог у літоўскіх дыялектах сімвалізавала алтар, адсюль — «Свентырог» (Святы Рог)—месца, дзе пазней узнік горад Вільна. Нагадаем таксама выразы з вядомага слоўніка У. І. Даля: рогом стереть — «сілаю, уладаю», они рогато **живут** — «у дастатку, багата»; рогач — «чалавек магутны». Нарэшце, нельга не ўспомніць і імя полацкага ўладара X стагоддзя Рагвалода — «уладальніка рога», гэта значыць — сілы, багацця, улады.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

## БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА Ў БАЛГАРЫІ

# ДЫЯЛОГ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

РАСПАЎСЮДЖАННЕ беларускай культуры ў Балгарыі. Як яно выглядае ў апошнія пяць год? Хачу спыніцца на гэтым адрэзку не па старой звычцы з таталітарнага часу—усё мераць пяцігодкамі, не асабістым удзелам у гэтым працэсе, а перш за ўсё таму, што гэта — час высокага грамадзянскага і культурнага ўздыму, час пераацэнкі ўзаемаадносін са светам. Мы ўжо ведаем пра шмат якія закулісныя тульні тагачаснага балгарскага ўрада, калі ідэалогія была адзіным патрабаваннем і крытэрыем ацэнкі ў агульным эканамічным і культурным жыцці. Якраз на фоне гэтай сітуацыі лічу, што ўяўленне аб дасягненнях беларускай культуры і мастацтва ў Балгарыі было больш шчырым, сумленным, чым, напрыклад, пераклад «Малой зямлі».

Разам з вяртаннем забароненых да ўчарашняга дня кніг расійскіх пісьменнікаў і эмігрантаў да балгарскага чытача дайшлі навейшыя, а таксама былі перавыдадзены творы А. Адамовіча, В. Быкава, С. Алексіевіч, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, А. Жука і іншых беларускіх пісьменнікаў, якія палюбіў ужо наш чытач.

Беларуская драматургія трывала ўвайшла ў рэпертуар балгарскіх тэатраў пасля ўдалай пастаноўкі «Радавых» А. Дударава ў Габраве (1984 год). Толькі аб гэтым спектаклі ў цэнтральным і мясцовым друку з'явілася дзесяць рэцэнзій. Потым была сцэнічная рэалізацыя яго п'есы «Вечар» у Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Івана Вазава, у тэатрах Ямбола і Бургаса. «Апошні журавель» (у сааўтарстве з А. Жуком) — у Сілістры, «Радавыя» — у Врацы. На балгарскую мову перакладзены і іншыя п'есы А. Дударава, а тэатры ўжо цікавяцца новымі ягонымі творамі.

Асобнай кнігай прадстаўлены вершы Н. Гілевіча, а ў розных часопісах і альманахах — творы маладзейшых беларускіх паэтаў. Я не стаўлю перад сабой мэту вычарпальнага агляду ўсіх перакладаў з беларускіх аўтараў. Але нават гэтыя прыклады сведчаць аб значнай прысутнасці беларускай літаратуры ў нашай перакладчай дзейнасці.

Юны балгарскі чытач пазнаёміўся з аповесцю І. Сяркова «Мы з Санькам у тыле ворага», асобныя беларускія казкі ўвайшлі ў анталогію казак свету, іншыя былі выдадзены асобнымі кнігамі з вельмі арыгінальнымі ілюстрацыямі беларускіх мастакоў.

Разважаючы аб прысутнасці беларускага мастацтва і культуры ў Балгарыі, трэба спецыяльна спыніцца на культурным абмене, які ажыццяўляецца ўжо 25 гадоў паміж Габраўскай і Магілёўскай абласцямі. Я не ведаю дакладна, што было ў дагаворах аб узаемным супрацоўніцтве між двума гарадамі: тады пабрацімства рабілася лёгка і з бласлаўлення «зверху». Мы можам толькі здагадвацца аб яго мэтах, бо гэта было часткай пэўнай палітыкі. Але ў даным выпадку не будзем кранаць ідэалагічны бок заключэння канкрэтных дагавораў. Абсурдна разглядаць гастролі тэатраў, канцэрты, выставы, камандзіроўкі рэжысёраў, сцэнографаў, пераклады твораў аўтараў абедзвюх абласцей і інш. толькі як ідэалогію. Чытаючы водгукі аб канцэртах, выставах і гастролях тэатраў, мы бачым, з якім захапленнем яны сустракаліся. І гэта не па той прычыне, што за мяжой прынята паказваць лепшае ці таму, што аб гасцях з СССР трэба было гаварыць толькі суперлатыўна, а таму, што людзям шчыра падабаліся незнаёмыя дагэтуль беларускія песні, танцы і слова. У 1986—1989 гадах толькі ў Габраве гасцілі з канцэртамі чатыры ансамблі, дзве фотавыставы, былі гастролі двух тэатраў, у тым ліку Беларускага акадэмічнага імя Янкі Купалы, а таксама выставы мастакоў Магілёўскай вобласці. Прыязнасць, з якой сустракаліся беларускія калектывы, была абумоўлена нацыянальнай часткай іх праграм, якія прынеслі незнаёмыя гукі, рытмы і фарбы і разам з імі — незвычайную народную душэўнасць. Прашу зразумець мяне правільна, у нас меліся абавязковыя квоты дзеля савецкіх песняў у фільмах (а можа яшчэ ў чым?..), якіх абавязаны былі прытрымлівацца і радыё, і тэлебачанне, і кінапракат, нават аркестры ў рэстаранах. І менавіта ў гэтай сітуацыі песні з Беларусі былі прыемным адкрыццём і перажываннем.

Два гады таму назад драматычны тэатр Габрава заключыў дагавор з тэатрам імя Янкі Купалы і з тэатрам Гомеля. Вынікам гэтых кантактаў сталі пастаноўка «Мудрамера» М. Матукоўскага, рэжысёрская праца Лідзіі Манакавай у Гомелі над «Трупам» Ердмана, пастаноўка рэжысёра Йордана Гаджэва і сцэнографа Ардаша Тавукчыяна ў Купалаўскім тэатры сучаснай балгарскай камедыі, а таксама работа рэжысёра Невены Міцевай і сцэнографа Ардаша Тавукчыяна ў гомельскім тэатры. Спіс тэатральных сувязей папаўняецца і ў апошнім месяцы: у Народным тэатры оперы і балета ў Сафіі Сямён Штэйн ставіць С. Пракофьева.

Мастацкая і культурная місія тэатраў, якая так добра пачалася, зараз адчувае сур'ёзныя праблемы. Ва ўмовах рыначнай эканомікі самыя цяжкія выпрабаванні церпяць культурныя інстытуты, вымушаныя шукаць сродкі для выжывання ў самым прамым сэнсе слова, а гэта, несумненна, запавольвае культурны дыялог паміж нашымі рэспублікамі.

Я не спыняюся на беларускіх фільмах у нас не таму, што іх не было, а таму, што не паспела атрымаць вычарпальнай інфармацыі аб іх.

Уяўленне аб беларускай літаратуры даюць нарысы, эсэ, інтэрв'ю з вядомымі беларускімі майстрамі, як напрыклад, з С. Алексіевіч, А. Дударавым, І. Дабралюбавым, М. Матукоўскім, Л. Манакавай, І. Чыгрынавым і інш.

Асабліва хочацца адзначыць супрацоўніцтва беларускіх пісьменнікаў, мастакоў, фатографаў і асобных культурных устаноў з унікальным Домам гумару і сатыры ў Габраве. Трохі парушу прынятыя спачатку часавыя рамкі, каб паведаміць коратка аб ім, каб адшукаць і тут беларускую тэматыку.

Дом гумару і сатыры існуе з 1971 года, ягоная мэта: збіраць, вывучаць і папулярызаваць лепшыя нацыянальныя дасягненні гумару і сатыры ва ўсіх жанрах і родах мастацтва. Рознымі шляхамі (кнігаабмен, абанемент, падарункі) паступіла ў спецыялізаваную бібліятэку шмат кніг сучаснага гумару беларускіх аўтараў. У праграме міжнародных біенале гумару і сатыры ў мастацтве, якія арганізоўваюцца кожны няцотны год, прымалі ўдзел беларускія карыкатурысты, фатографы, пісьменнікі, некаторыя атрымалі ўзнагароды, як, напрыклад, Канстанцін Куксо, што заняў у 1979 годзе другое месца ў конкурсе карыкатур. У наступнае біенале ўжо паступілі карыкатуры і фотаздымкі з Беларусі.

Зараз мала і асцярожна гаворыцца аб планах на будучыню. Наўрад ці тут да месца прагнозы аб развіцці заўтрашніх культурных ўзаемасувязей паміж нашымі рэспублікамі. Зніжэнне відавочнае. Калі столькі сур'ёзных праблем у грамадстве, інакш і быць не можа. Дагэтуль ў прапагандзе беларускага мастацтва і культуры таксама не ўсё ішло па ўзыходзячай. Успомнім, як спалохаў усіх Чарнобыль. Культурнае супрацоўніцтва тады не знайшло сваё месца нават у адкрыцці праўды аб страшэннай бядзе, не змагло стаць акумулятарам ідэй і канкрэтных крокаў да ВЫратавання людзей у дзвюх краінах.

Сёння, пасля падзення столькіх выдуманых і сапраўдных сцен, нашы адносіны становяцца ўсё больш прыкметнымі, і толькі зварот да нацыянальных культурных скарбаў дапаможа іх асэнсаваць і засцерагчы ад ідэалагізацыі. Культурны дыялог з Беларуссю працягваецца.

**Вэнета ГЕОРГІЕВА-КОЗАРАВА,**

# ПАЎСТАНЕ З РУІН



Не адно стагоддзе ўзвышаўся па-над Гайнай у старажытным Лагойску белакаменны будынак касцёла. Правілі тут службу для прыхаджан каталіцкага веравызнання, а ў сутарэннях храма знаходзілі вечны спачын прадстаўнікі знатнага дваранскага роду Тышкевічаў. Але прайшоў час, калі пачалі руйнавацца духоўныя святыні, і лагойскі касцёл спасцігнуў такі ж лёс, як і многія тысячы іншых культавых пабудоў. У пасляваенныя гады паўразбураны касцёл мясцовыя ўлады спрабавалі выкарыстаць па іншаму прызначэнню, прыстасаваць яго пад... Дом піянераў. А калі з гэтай задумы нічога не выйшла, пры дапамозе магутнай тэхнікі былі дашчэнту зруйнаваны сцены.

Раней жа ваяўнічыя атэісты, людзі, для якіх не існуе нічога святога, апаганілі магілы знакамітых вучоных — братоў Яўстафія і Канстанціна Тышкевічаў і іх продкаў, выкінулі з грабніц мошчы. І зарастала быльнягом месца, дзе некалі ўзвышаўся вядомы раней на ўсю акругу храм, пра які напаміналі цяпер толькі вывернутыя камяні.

Прыгожую гэтую мясціну аблюбавала кіраўніцтва райспажыўсаюза. Побач з руінамі касцёла быў узведзены універмаг. Гандлёвы цэнтр планавалася расшырыць, уключыўшы ў яго рэстаран, на тым самым месцы, дзе некалі ўзвышаўся храм Божы. Гэта не магло не ўзрушыць вернікаў, і яны рашылі не дапусціць святатацтва. «Быць касцёлу ў Лагойску», — гэтае памкненне вернікаў падтрымала вышэйшае каталіцкае духавенства Беларусі. Былі прыняты канкрэтныя захады дзеля святой справы.

І вось не так даўно аб'явы абвясцілі аб тым, што адбудзецца асвячэнне сімвалічнага каменя, які ляжа ў падмурак будучага храма. У вызначаны дзень на касцельным дзядзінцы сабралася мноства народу — жыхароў Лагойска і навакольных вёсак. Пасля ўрачыстай сустрэчы высокага госця — мітрапаліта Мінскага і Магілёўскага арцыбіскупа Казіміра Свянтака, які прайшоў па жывому людскому калідору да крытай пляцоўкі, пачалося набажэнства. Да прысутных звярнуўся ксёндз Уладзіслаў Завальнюк. І што характэрна — на беларускай мове (дарэчы, да гэтага па-беларуску гучала шмат духоўных спеваў). Ён са спасылкай на гістарычны дакумент расказаў пра гісторыю лагойскага касцёла, які ў свой час аб'ядноўваў духоўна да пяці тысяч прыхаджан.

Затым да прысутных звярнуўся арцыбіскуп Казімір Свянтак. Ён нагадаў тыя змрочныя часы з нашай нядаўняй гісторыі, калі рэлігія была, па сутнасці, пад забаронай, закрываліся і знішчаліся храмы — як праваслаўныя, так і каталіцкія, а большая частка святароў і многа шчырых вернікаў падвяргалася рэпрэсіям за свае перакананні. Арцыбіскуп выказаў упэўненасць, што лагойскі касцёл з Божай ласкі паўстане ў новым выглядзе, каб служыць справе духоўнага яднання людзей. Але не менш важна, падкрэсліў высокі госць, каб у душы кожнага хрысціяніна адрадзіўся храм духоўны, і ніхто ў наш час гэты храм не пасмее парушыць.

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ.**

**Камітэт касцёла просіць вернікаў ахвяраваць грашовыя сродкі на аднаўленне храма. Пералічэнні рабіць на рахунак № 701904 у Лагойскім аддзяленні Аграпрамбанка.**

# ТЭАТР-ЛІЦЭЙ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У будынку Рэспубліканскага тэатра юнага гледача адкрыўся тэатр-ліцэй. Ён ставіць на мэце пазнаёміць дзяцей самага рознага ўзросту з шэдэўрамі класічнай драматургіі, пераважна з тымі літаратурнымі творамі, якія не ўключаны ў школьныя праграмы.

У рэпертуары тэатра ёсць і пастаноўка на англійскай мове — гэта такія любімыя ўсімі «Тры парасяці». Падобныя тэатральныя ўрокі разлічаны на маленькую студыю — 100 чалавек. Акцёры лічаць, што ў гэтым выпадку лягчэй наладжваць кантакт з гледачамі.



**Гэтыя жыццярадасныя хлопчыкі і дзяўчынкі з Крычава (на здымку) — удзельнікі дзіцячага фальклорнага ансамбля «Вашчылкі». Разам з мастацкім кіраўніком Галінай Батвіннік яны пабывалі ў Італіі, дзе дэманстравалі сваё мастацтва міланцам.**

**Назву ансамбль атрымаў па імені героя Васіля Вашчылы, які два з паловай стагоддзі назад узначаліў на Крычаўшчыне народнае паўстанне. На міжнародным фальклорным фестывалі, што праходзіў у Мінску вясной гэтага года, выканаўчае майстэрства і рэпертуар калектыву з Магілёўшчыны зацікавілі гасцей. Вынікам і стала паездка ў Італію.**

**Фота В. БЫСАВА.**

# СУСТРЭЧА ДВУХ СВЕТАЎ

Споўнілася 500 гадоў з таго часу, калі сярэдневяковая Еўропа, так званы Стары Свет, дазналася пра новыя землі. Хрыстафор Калумб шукаў шляхі ў Індыю і ўбачыў абрысы новага кантынента. Той Новы Свет мы завём Амерыкай. Яна, як тая Поўня, канешне ж, паўплывала на гісторыю ўсіх краін, а таксама і на лёс нашых продкаў, жыццядзейнасць таго народа, які сёння вядомы на планеце пад назвам беларускі.

Так, многа было адрознага між Старым і Новым Светам. Напрыклад, між вольнымі амерыканскімі прэрыямі і кратамі менскай «амерыканкі», унутранай турмы НКУС, — розніца вялікая... Але заглянула сонца і ў таталітарныя бэсэраўскія лёхі, і зараз беларусы Амерыкі і беларусы Еўропы могуць зазірнуць адзін аднаму ў вочы.

Гэтыя радкі якраз і ёсць тымі «паглядамі» праз акіян, што ўвайшлі ў «Дзырыўш майго адкрыцця Амерыкі».

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

***

**Калумб! І сёння не лаўчыся:**
**з-пад ветразяў**
**суровы Час глядзіць.**
**Нам зноў патрэбна**
**зберагчыся,**
**два Светы праўды ўмаладзіць.**

***

**У Віцебску матулечка жыве.**
**Яе вайна дасюль штыхом штурхае.**
**...Як місіс Лоўлар радая траве!**
**О, як дачушка Ала уздыхае!**

**...І толькі Данчык ведаў: мама Юля[1]**
**накукавала стрэчу, як зязюля.**

***

**«Арсеньнева...» Настрашаны, баюся**
**сказаць: яна — дар Бога Беларусі.**

***

**Шаптаўся «Полацак»[2] гулліва...**
**Устаў. Пазваў, нібы ў паход:**
**«...Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай**
**Краіну нашу і наш народ».[3]**

***

**Перад Чыкага разгубіўся ўраз:**
**з трубы — агонь;**
**вунь дым плыве навобмацак...**
**Як быццам прада мною Наваполацак,**
**дзе вісне над Дзвіною сіні газ.**

***

**Вялікую разлегласць не прамерыць**
**і не падблізіць нам мацерыкі...**
**Што застаецца! А застаецца верыць**
**у нетры сэрца, у працяг рукі.**

***

**Няхай візіт мой быў кароткі**
**(пасля яго — хоць памірай!),**
**я паўтарыў Дарогу Продкаў**
**у пекла, у чысцец, у рай.**

**Спазнаў трагедыю калізій —**
**зямляцкіх незямных нягод**
**(з Чурылава якісь Панізьнік**
**таксама праліваў там пот).**



**Спазнаў і нацы памеры,**
**народа родненькага лёс...**
**Партыйныя функцыянеры**
**няхай цяпер сігналяць «SOS!»**

**...Пасля галгофаў усіх Амерык**
**уваскрасае наш Хрыстос.**

[1] Спадарыня Юля паспрыяла першай сустрэчы пасля вайны Ганны Іванаўны Дзямяншчонак і яе дачкі Алы.

[2] «Полацак»—беларускі культурны цэнтр у Клiўлендзе (штат Агаё).

[3] Радок з верша Наталлі Арсенневай «Малітва за Беларусь».

# БЫЛА ЗАКЛАПОЧАНА ЛЁСАМ БЕЛАРУШЧЫНЫ

У пачатку кастрычніка ў Віленскім педагагічным універсітэце адбылося святкаванне стогадовага юбілею Людвікі Антонаўны Войцік (Зоські Верас) — вядомай беларускай пісьменніцы і грамадскай дзеячкі, якая большую частку свайго жыцця пражыла ў Вільні. Арганізавалі яго і прынялі ўдзел у чытаннях прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Скарынаўская культурна-асветная цэнтра, Асацыяцыі беларусістаў Літвы, кафедры беларусазнаўства факультэта славістыкі Віленскага педагагічнага універсітэта, беларускіх суполак у Вільні.

У дакладах і ўспамінах Лявона Луцкевіча, Адама Мальдзіса, Алеся Вяляцкага і іншых неаднаразова гучала, што Зоська Верас заўсёды была вельмі заклапочана лёсам беларушчыны ў Вільні, станам беларуска-літоўскіх нацыянальных адносін, ад якіх і цяпер залежыць лёс беларускай прысутнасці ў старажытнай сталіцы Вялікага княства Літоўскага, пераемнасць традыцый і перспектывы. Ішла размова і пра надзённыя справы беларускай Літвы: аднаўленне Віленскага беларускага музея, экспанаты якога паранейшаму захоўваюцца ў розных архівах, экспазіцыях і запасніках іншых музеяў літоўскай сталіцы; стварэнне беларускай гімназіі ў Вільні; абмен літаратурай; пра сітуацыю ў галіне перакладу (апошняя беларуская кніга на літоўскай мове выйшла яшчэ ў 1990 годзе). Старшыня Літоўскай асацыяцыі беларусістаў Альма Лапінскене скардзілася на змену назваў «Літва» на «Летува», «літовец» на «летувіс», што ўкараняюць апошнім часам «ЛіМ» і «Наша ніва», а літоўцы ўспрымаюць як крыўду і непаразуменне. Гучалі таксама заклікі стварыць умовы для нацыянальнага жыцця літоўцаў у Беларусі хоць бы на тым узроўні, якім забяспечаны віленскія беларусы.

Такім чынам, стогадовы юбілей Зоські Верас стаў добрай падставай для сур'ёзнай размовы аб праблемах літоўска-беларускіх адносін, для пошуку ўзаемазбліжэння.

## СПОРТ

### НАМЕЧАНЫ АЛІМПІЙСКІ БАЛЬ

Удзельнікі Алімпійскіх гульняў, іх трэнеры, спартыўная грамадскасць рэспублікі сталі першымі гледачамі ў новым тэатральным сезоне, які адкрыўся ў тэатры Янкі Купалы.

Папярэднічаў гэтаму ўрачысты вечар, наладжаны Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларусі ў гонар пераможцаў Алімпійскіх гульняў у Альбервілі і Барселоне. Старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч высока ацаніў выступленне беларускіх спартсменаў на Алімпійскіх гульнях, якія ўнеслі тым самы важкі ўклад у прызнанне рэспублікі на міжнароднай арэне як самастойнай дзяржавы. Вялікай групе атлетаў і іх трэнераў уручаны Ганаровыя граматы, Граматы Вярхоўнага Савета, памятныя падарункі. Прагучала многа цёплых слоў у адрас спартсменаў і іх трэнераў, ветэранаў спорту. За 40 гадоў удзелу ў алімпійскім руху ў рэспубліцы накоплены вялікі вопыт, склаліся добрыя традыцыі. Менавіта гэта паслужыла нагодай для спартыўнай грамадскасці рэспублікі правесці II снежня ў Палацы спорту «Алімпійскі баль».

### «СЕРАБРО» СУПЕРЛЭДЗІ

У пачатку 1992 года ў Маскве праходзіў вельмі прадстаўнічы міжнародны турнір па сучаснаму пяцібор'ю сярод жанчын на права насіць тытул «Суперлэдзі». У вельмі напружанай барацьбе перамагла Жанна Далгачова з Гомеля. А да гэтага яна стала чэмпіёнкай Еўропы, заваявала Кубак свету.

І вось новы поспех суперлэдзі. На чэмпіянаце свету па сучаснаму пяцібор'ю, які праходзіў у сталіцы Венгрыі Будапешце, Жанна Далгачова заваявала сярэбраны медаль. Адзначым, што Гомель выхаваў і чэмпіёна свету па сучаснаму пяцібор'ю сярод мужчын. Ім з'яўляецца Аляксандр Барысенка.

### ЮНЫ ЧЭМПІЁН

Упершыню на чэмпіянаце свету па шахматах сярод юнакоў і дзяўчат, які праходзіў у нямецкім горадзе Дуйсбургу, Беларусь выступала самастойнай камандай. Рэспубліка выставіла дзесяць удзельнікаў ва ўсіх пяці ўзроставых групах. І дэбют юных беларускіх шахматыстаў быў шчаслівым.

Зусім нечаканым для ўсіх стала ўзыходжанне на чэмпіёнскі п'едэстал чатырнаццацігадовага мінчаніна Юрыя Ціханава. Юра — выхаванец дзіцячай спартыўнай школы № 11 па шахматах. Ён стаў першым чэмпіёнам свету па шахматах у асабістым заліку за ўсю гісторыю Беларусі.

**НА ЗДЫМКУ: чэмпіён свету па шахматах сярод юнакоў Юрый ЦІХАНАЎ з уручаным яму прызам.**

**Фота Г. СЯМЁНАВА.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1904.
Падпісана да друку 19.10.1992.